

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ № 7 (13539)

10 — 16 лютага 1992 года

Цана 1 рубель 50 капеек (па падпісцы — 35 кап.)


У нумары:



# «ЗАБЫТАЯ СЛАВА»

стар. 14

*Битва подъ Невлемъ въ 1563 г.*

*(съ гравюры 1611 г.)*

Так называецца кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі, які мы пачынаем друкаваць у гэтым нумары.

Ён падрыхтаваны спецыяльна для "ЧЗ" калектывам аўтараў, у які ўвайшлі вядомыя беларускія навукоўцы Г.Штыхаў, М.Ткачоў, Г.Сагановіч, С.Тарасаў, А.Дзярновіч, Ю.Бохан, У.Кананові́ч, У.Амяльянчык, В.Герасімаў, С.Таляронак, М.Статкевіч.

Спадзяёмся, што напярэдадні 23 лютага гэты матэрыял паведаміць беларускаму чытачу шмат новага і, зрэшты, распачне дыскусію аб мінулым і будучым нацыянальных вайсковых фарміраванняў.



які не мог змірыцца з паражэннем, узначаліў антыамінаўскую кампанію.

А дзе ж пад той час быў Тараці? Ён заняў вельмі хісткую пазіцыю. За гэта і паплаціўся...

"Халькісты", якія былі адданымі асабіста Тараці, але не паважалі Аміна, таксама сталі ахвярамі рэпрэсій. Пачалася "чыстка радоў". Амін арганізаваў "змову", у якой быццам бы прымалі ўдзел некаторыя з членаў ЦК НДПА. "Раскрыццё" гэтай "змовы" дало магчымасць Аміну расправіцца з многімі сваімі праціўнікамі. Тараці практычна заставаўся "вясельным генералам". Масква ж, нягледзячы на папярэджанні рэзідэнтуры КДБ, па парадах пасла, партыйных і ваенных саветнікаў, зрабіла стаўку на Аміна. Абстаноўка напалялася. Цяпер і Тараці зразумеў, да чаго давяло яго ваганне...

Савецкі пасол Пузанаў, генералы Іваноў, Паўлоўскі і Гарэлаў сталі, можна сказаць, пасрэднікамі. Відавочна, і Тараці пераканаўся, што Аміна трэба "ставіць на месца". Вось што расказвае палкоўнік Марозаў: "*...Тараці затэлефанаваў Аміну і запрасіў прыехаць. Амін ехаць да "вялікага правадыра" катэгарычна адмовіўся, заявіўшы, што на яго рыхтуюць замах... І патрабаваў ад пасла Пузанава асабістую гарантыю яго бяспекі. Пасол такую гарантыю даў. Праз некаторы час ля ганку рэзідэнцыі Тараці спыніліся дзве машыны. Спачатку ў пад'езд увайшлі два ахоўнікі Аміна і пачалі падымацца на другі паверх. Праз некалькі секунд з машыны выйшаў Амін. Не паспеў ён падняцца па лесвіцы, як раздалася аўтаматная чарга. Першым з пад'езда імкліва вылецеў Амін, прыгінаючыся да зямлі, ён хутка падбег да машыны... Зароў матор і — машына панеслася да брамы...*". Калі Амін вярнуўся ў сваю рэзідэнцыю, ён адразу абвінаваціў Тараці і савецкага пасла ў

*Што мы ведаем пра гэтую вайну? Цэлае дзесяцігоддзе ў савецкіх сродках масавай інфармацыі гучалі вельмі сціплыя справаздачы з афганскага фронту. Мы нават не ведалі, што гэта сапраўдны фронт — жорсткі, бескампрамісны, што гэтая вайна кожны дзень забірае жыццё чыйгосьці сына, брата, мужа.*

*З чаго ж пачалася гэтая вайна? Ці была гэта вайна грамадзянская, як лічаць многія, альбо ў наяўнасці была звычайная інтэрвенцыя іншай дзяржавы? За лозунгамі і высокімі фразамі аб імкненні афганскага народа да свабоды, аб інтэрнацыянальным абавязку хаваліся рэкі крыві, мора агню, апляўленыя скалы, бязлюдныя аулы...*

# З чаго пачынаюцца войны?

## *15 лютага спаўняецца тры гады з дня вываду савецкіх войск з Афганістана.*

Нават і зараз мы не ведаем усёй праўды пра гэтую вайну: надта шмат у нас сваіх праблем. Але, ідучы па вуліцы, мы час ад часу сустракаем маладых хлопцаў у інвалідных калясках, глядзім ім у вочы... і становіцца сорамна. Гэтую вайну забыць нельга.

Як жа ўсё пачыналася? Як сцвярджае палкоўнік Аляксандр Марозаў, які ў 1975—1979 гадах быў намеснікам рэзідэнта КДБ у Афганістане, глебай для ўзнікнення канфлікту стаў раскол у народна-дэмакратычнай партыі Афганістана. Пад час красавіцкай рэвалюцыі гэтая партыя захапіла ўладу. Але справа ў тым, што яшчэ ў 1966 годзе НДПА раскалолася на дзве фракцыі. Адну з іх —"хальк" ("народ")— узначаліў Нур Мухамед Тараці і яго паплечнік Хафізула Амін. Другая ж фракцыя называлася "парчам"("сцяг")— і ўзначальвалася Бабракам Кармалем.

Гэтыя дзве фракцыі адразу былі пастаўлены ў няроўнае становішча. Праграма Бабрака Кармаля скіроўвалася да перадавой інтэлігенцыі, "халькісты" ж грунтавалі сваю праграму выключна на пастулаце дыктатуры пралетарыяту. Нягледзячы на тое, што пралетарыяту як такога ў Афганістане не было, дрэнна інфармаваны ЦК КПСС на пачатку зрабіў стаўку менавіта на фракцыю Тараці і Аміна.

Паколькі раскол і стаў сапраўднай прычынай грамадзянскай вайны, нашых чытачоў павінны зацікавіць супярэчнасці, якія існавалі паміж фракцыямі. У выкладанні А.Марозава яны гучаць так:

1."Халькісты" (Тараці і Амін) стваралі ў партыі культ асобы правадыра. "Парчамісты" (Б.Кармаль) лічылі, што культу ў НДПА быць не павінна.

2."Халькісты" лічылі галоўнымі і адзінымі надзейнымі саюзнікамі рэвалюцыі ў Афганістане рабочы клас і сялянства."Парчамісты" называлі галоўнымі саюзнікамі нацыянальна-патрыятычныя сілы ў асобе працоўнай інтэлігенцыі, студэнцтва і нязначнай часткі рабочых.

3."Халькісты" абвясцілі непрымірымую вайну духавенству як апоры афганскай рэакцыі."Парчамісты", наадварот, лічылі, што ва ўмовах Афганістана не толькі не варта адкрыта выступаць супраць духавенства, але варта шукаць магчымасць кампрамісаў.

4. На думку "халькістаў", галоўнай задачай рэвалюцыі было ўстанаўленне дыктатуры пралетарыяту ўжо на першым рэвалюцыйным этапе. "Парчамісты" сцвярджалі, што першым этапам павінна стаць нацыянальна-дэмакратычная рэвалюцыя.

Цяпер вы можаце зразумець, чаму кіраўніцтва КПСС паставіла карту менавіта на "хальк". Рэзідэнт знешняй разведкі КДБ Асадчы, пасол СССР Пузанаў, прадстаўнік КДБ Багданаў абсалютна давяралі Аміну, які знаходзіў цытаты для сваіх выступленняў у "Кароткім курсе гісторыі ВКП/б/".

Як жа адбыўся пераварот? На працягу многіх гадоў галоўную ролю ў палітычным жыцці Афганістана адыгрываў Мухамад Дауд. У апошнія гады перад "красавіцкай рэвалюцыяй" гэты чалавек, які ў 1973 годзе з дапамогай усяго толькі аднаго танкавага палка звергнуў караля М.Захіршаха, займаў пасаду прэзідэнта. Афіцэры-"халькісты" яшчэ ў 1976 годзе былі гатовы да ўзброенага выступлення. Але Масква пад той час стрымала загаворшчыкаў. Як аказалася, ненадоўга.

У ноч з 25 на 26 красавіка 1978 года спецслужбы Дауда арыштавалі Н.М.Тараці. Сапраўды, арышт кіраўніка загаворшчыкаў — ці ж не нагода гэта для рэвалюцыі?! Паводле сведчанняў, Аміна пад той час не адразу пасадзілі за краты, і ён паспеў даць указанне аб пачатку ўзброенага выступлення. Трэба сказаць, што ЦК НДПА ўжо аб'яднаўся, "хальк" і "парчам" прыйшлі да згоды...

"Рэвалюцыя" перамагла. Прэзідэнт Дауд і яго сям'я былі забітыя. Вось як апісвае забойства Дауда і яго сям'і Хафізула Амін: "*З надыходам прыцемак геройчныя лётчыкі-халькісты на сваіх знішчальніках пачалі наступленне на Даудаўскі палац і прымусілі афіцэраў і салдат, якія абаранялі яго, скласці зброю. Аднак сам Дауд, яго ныя сваякі і слугі працягвалі аказваць жорсткае супраціўленне.*

*У палацы распаўсюдзіліся чуткі, што Дауда не варта забіваць, а трэба захапіць жывым. Калі ж падраздзяленне "камандас", якое ўзначаліў афіцэр-"халькіст", з'явілася ў палацы і таварыш Імамудзін заявіў Дауду, што палітычная ўлада ў краіне знаходзіцца ў руках НДПА і што ён павінен здацца, Дауд параніў яго, стрэліўшы з пісталета.*

*Пасля гэтага салдаты-"халькісты" адкрылі агонь па Дауду і яго паплечніках і знішчылі іх*".

Можна прама сцвярджаць, што Дауд быў бы забіты ў любым выпадку. Адразу ж пасля забойства прэзідэнта халькісты прыняліся за паляванне на тых сваякоў і блізкіх Дауда, якія яшчэ засталіся ў жывых.

Такім чынам, НДПА прыйшла да ўлады. Уладу падзялілі так: старшынёй рэвалюцыйнага савета і прэм'ер-міністрам стаў Нур Мухамед Тараці ("Хальк"), намеснікам старшыні рэўсавета і намеснікам прэм'ер-міністра стаў "парчаміст" Бабрак Кармаль. Хафізула Амін, які фактычна з'яўляўся арганізатарам перавароту, быў незадаволены. Ён стаў "усяго толькі" намеснікам прэм'ер-міністра і міністрам замежных спраў. Пачалася класічная барацьба за ўладу. У выніку Амін "настукаў" Тараці на Кармаля і той вымушаны быў паехаць паслом у Прагу. Масква нічога не мела супраць, бо яшчэ на самым пачатку рэвалюцыі Амін прадставіў галоўнаму саветніку ў Кабуле М.Сіманенку даведку, у якой гаварылася: "*Таварышы-халькісты былі выхаваны ў духу класавай барацьбы з прыгнётам рэжымаў Захір-шаха і Дауда.*

*Таварышы-парчамісты былі выхаваны ў асноўнай масе ў духу класічнага прымірэння з кіруючай у краіне вярхушкай...*" і далей у такім жа стылі. Масква адрэагавала на гэтае класічнай бюракратычнай адпіскай з цытатамі У.І.Леніна і самымі агульнымі фразамі. Практычна Хафізуле Аміну была адкрыта зялёная вуліца. Знішчэнне фракцыі "парчамістаў" пачалося. Пачасціліся арышты, катаванні, расстрэлы. Бабрак Кармаль, спробе замаху. Тараці растлумачыў выпадак тым, што не паспеў папярэдзіць ахову...

Раніцай 15 верасня Тараці апынуўся за кратамі. Савецкі пасол накіраваў у Маскву тэлеграму, дзе сцвярджалася, што з Тараці ўсё скончана, стаўку трэба рабіць толькі на Аміна.

16 верасня 1979 года на пленуме ЦК НДПА Амін падрабязна распавёў аб спробе замаху і аб'явіў сябе генеральным сакратаром ЦК НДПА.

Тараці быў па-зверску забіты. Пасля гэтага знакамітая пяцёрка — Брэжнеў, Андропаў, Усцінаў, Грамыка і Панамароў вырашылі паставіць на чале ўлады Афганістана Бабрака Кармаля. На іх думку, ён быў менш самастойны і такім чынам мог бы лепей выконваць ролю паслухмянага кіраўніка.

У народную рэспубліку Афганістан былі ўведзены савецкія войскі.

Карыстаючыся тэрміналогіяй тых гадоў, "27 снежня 1979 года здаровая патрыятычная большасць НДПА, рэвалюцыйнага савета і ўзброеных сіл ДРА, апіраючыся на непахіснасць, рашучасць народа Афганістана выратаваць рэвалюцыю, ліквідавалі злачынны рэжым Х.Аміна."

У тых умовах пераход улады ад адной групоўкі да другой не быў магчымы без умяшання звонку. Савецкі Саюз, зацікаўлены ў захаванні ў Афганістане прасавецкага рэжыму, які пад "мудрым кіраўніцтвам" Аміна пагражаў стаць антысавецкім, увёў у Афганістан свае дэсантныя дывізіі. Пад гэты час на тэрыторыі Пакістана ўжо пачалося фарміраванне ўзброеных сіл апазіцыі...

Раней іх называлі "душманамі". Душман — значыць вораг. Цяпер у сродках масавай інфармацыі слова "душман" не сустрэнеш. "Маджахедзіны" — так іх цяпер называюць. Але для нашых хлопцаў яны былі ворагамі. Я сам служыў непадалёк ад тых мясцін, праўда, па гэты бок мяжы. Але я бачыў "чорныя цюльпаны". у Ташкенцкім шпіталі гутарыў са скалечанымі дзевятнаццацігадовымі хлопцамі. А камандзір маёй вайсковай часці на палітзанятках тлумачыў:"Мы ўвайшлі ў Афганістан, каб ён не стаў стартавай пляцоўкай для амерыканскіх ракет...".

Вось такая палітычная глеба была пад гэтай вайной. Вельмі шмат каштавала яна нашым людзям. Не ведаю, як могуць глядзець у вочы тых, хто ваяваў у Афгане, паслаўшыя іх туды палітыкі. Нам жа цяпер застаецца толькі адно: памяць. Але памяць дзейная. Не думаю, каб нашыя афганцы прыпадобніліся амерыканскім хлопцам, якія ваявалі ў В'етнаме, а пасля кідалі свае баявыя ўзнагароды за агароджу Белага дома. У Афганістане загінулі лепшыя. Толькі на Беларусь не вярнулася больш за 800 хлопцаў. Іх лёс — дакор нам усім. Дакор за маўчанне.

**Падрыхтаваў Алесь Палынскі.**

**Фота С.Брушко.**

Пры падрыхтоўцы артыкула былі скарыстаны матэрыялы часопіса "Новое время".

# НА ПОЛІ — ТРАЦЦЯК

*Тэма вёскі з'яўляецца на старонках газет і часопісаў даволі рэдка. Ды й сапраўды, палітычнае жыццё робіцца ў кабінетах Мінска, правы адстойваюцца на плошчах буйных гарадоў і менавіта на гэта скіравана ўвага людзей. Час ад часу ўсплываюць толькі пасяўная альбо ўборачная кампаніі, падрыхтоўка тэхнікі да зімы ці да вясны, нататкі пра старшыню-героя або пачынаючага фермера. Адно: хлеб па-ранейшаму прывозяць з вёскі, паставак мяса і малака таксама чакаем ад сялян.*

*Сёння шмат праблем навалілася на людзей, рэспубліку. Пытанні, спрэчкі... Толькі адны спрачаюцца, а другія спрабуюць даць практычны адказ.*

*У гэтым я ўпэўніўся на ўласныя вочы пад час камандзіроўкі ў Ляхавіцкі раён, у калгас імя Ламаносава, дзе вось ужо амаль 20 год працуе старшынёй Генрых Міхайлавіч Траццяк.*



I

**"Забруджана трэць Беларусі. 20 працэнтаў яе ворных зямель сталі непрыгоднымі. На ліквідацыю вынікаў аварыі спатрэбіцца не менш як 17 мільярдаў рублёў. Значна вырасла частата анкалагічных і іншых захворванняў сярод дзяцей...".**

Гэтыя словы з кнігі Доры Штурман і Сяргея Цікціна "Эканоміка катастроф", выдадзенай у Лондане ў 1991 годзе, я прывёў толькі для таго, каб нагадаць: магчыма, барацьба з вынікамі аварыі яшчэ толькі пачынаецца

— *Дзеці з забруджаных раёнаў Беларусі едуць у краіны Еўропы на аздараўленне, спажываюць там чыстыя прадукты, гуляюць у чыстым лесе, а потым вяртаюцца дахаты і зноў трапляюць у зачараванае кола забруджанага асяроддзя,* — сумна разважае Генрых Міхайлавіч Траццяк. І ў мяне няма падстаў не згаджацца з ім. Безумоўна, гэта так. А што рабіць, як ратаваць дзяцей Беларусі?

Гаспадарка Генрыха Міхайлавіча не закранута крылом радыеактыўнага воблака. Ім пашчасціла. Здавалася б, сядзі сабе ціхенька, вырошчвай хлеб, выконвай дзяржзаказ, упарадкоўвай жыллё калгаснікаў і будзь задаволены. Але не. Не можа сядзець Траццяк спакойна на сваім месцы, сярод двухпавярховых сядзіб калгаснікаў і думаць толькі пра свой інтарэс. Менавіта таму ў лютым 1990 года ён і з'явіўся ў камітэце "Дзецям Чарнобыля", дзе сустрэўся з яго старшынёй Генадзем Грушавым. Прапанаваў сваю дапамогу. Не прайшло і некалькіх месяцаў, як у калгасе з'явіліся прадстаўнікі заходнегерманскага дабрачыннага фонду "Бацькі і маці супраць ядзернай небяспекі", якія шукалі прыдатнае месца для размяшчэння завода, які б стаў вырабляць экалагічна чыстае дзіцячае харчаванне.

— *Мы знайшлі некалькі гектараў зямлі, дзе ніколі не выкарыстоўваліся ядахімікаты і ўгнаенні (з-пад шматгадовых траў), вызначылі месца для будоўлі завода, дамовіліся, што мы фінансуем будаўніцтва цэхаў, а немцы прадастаўляюць абсталяванне.*

Нягледзячы на тое, што заводы па выпуску дзіцячага харчавання субсідзіруюцца дзяржавай, Генрых Міхайлавіч не стаў звяртацца па дапамогу. Усё рабілі сваімі сіламі, за грошы калгаса. Два свае водпускі: у 1990 і 1991 гадах правёў ён на будоўлі. А зараз ужо завод гатовы да пуску.

— *Праз пару дзён прыедуць спецыялісты з Германіі паставіць тое абсталяванне, якое мы не здолелі прыстасаваць сваімі сіламі, і праз які тыдзень пойдзе гатовая прадукцыя.*

— А сыравіна? — пытаюся.

— *Да ўраджаю новага года давядзецца працаваць на нямецкай сыравіне.*

Мы праходзім па пустым калідоры. Хутка адсюль будуць выязджаць цялежкі з гатовай прадукцыяй. Увогуле, мяне ўразіў тэрмін, за які быў пабудаваны завод, — крыху больш чым два гады. Не было ніякага праекта — карпусы ўзводзіліся адразу, пад непасрэдным наглядам архітэктара. Было цяжка і нязвыкла. Але немцы не любяць чакаць — яны будуюць хутка. На мой погляд, менавіта ў гэтым поспех распачатай акцыі. Узгадненні і ўдакладненні, планаванні і распрацоўкі ў сур'ёзных афіцыйных установах патапілі б ці, у лепшым выпадку, адцягнулі пачатак працы завода на доўгія гады.

— Колькі ж грошай пайшло на гэтую будоўлю? — цікаўлюся ў старшыні.

— *Дзесьці каля мільёна рублёў з нашага боку і паўмільёна марак патрацілі немцы.*

— Колькі чалавек будзе працаваць на гэтым заводзе?

— *4—5 чалавек будзе дастаткова — лінія поўнасцю аўтаматызаваная.*

— Ці плануеце вы атрымліваць нейкі прыбытак са сваёй прадукцыі?

— *Выпуск любой прадукцыі прадугледжвае атрыманне нейкага прыбытку. Але ж вы самі разумееце, што калі мы ў пагоні за прыбыткам зробім кошт прадукцыі недасягальным для кішэні пакупнікоў, то прайграем ад гэтага толькі самі. Акрамя таго, зарабляць на дзецях проста неэтычна. Таму максімальны прыбытак, паводле нашых падлікаў, будзе складаць 25 працэнтаў. Тады датацыі нам не спатрэбяцца. Але ў тым выпадку, калі прыбытак будзе ніжэйшы за сабекошт, мы звернемся па дапамогу да дзяржавы. А так — не. Гэта ж ад самага пачатку была дабрачынная акцыя.*

— Няўжо няма ніякіх цяжкасцей? Такога ў нашай краіне не бывае!

— *На жаль, так*, — сумна згаджаецца Генрых Міхайлавіч Траццяк. — *Але ў нас праблема спецыфічная. Дзеля таго, каб выпускаць прадукцыю, нам неабходна сыравіна — зерне, якое мы самі і вырошчваем. Але на ўсё, што вырасце на нашай зямлі, існуе дзяржзаказ. Толькі з чаго тады выпускаць прадукцыю — з паветра? Таму я звяртаюся да кіраўніцтва, каб знялі дзяржзаказ з той часткі збожжа, зерня, якая неабходна заводу для працы. Гэта прыблізна 500 т. Лічба невялікая, а праблема амаль невырашальная. Але ж настаў час падумаць і пра нашых дзяцей, аб іх здароўі.*

Праблема з дзяржзаказам будзе вырашана — не можа быць не вырашана, размова ж ідзе аб чарнобыльскіх дзецях. Але харчаванне такое патрэбна не толькі ім — усім дзецям рэспублікі. Яшчэ пару такіх заводаў — і Беларусь забяспечыць сябе. Толькі дзе ўзяць такіх людзей, як Генрых Міхайлавіч? Такіх, якія робяць канкрэтную справу, а не спрабуюць адгаварыцца пустымі словамі?..

II

**"Капіталаўкладанні: каля 1 трыльёна рублёў растварыла сельская гаспадарка за 30 год, так і не выйшаўшы на сусветныя межы НТР.**

**Фінансавая сфера: за апошнія 25 гадоў з калгасаў і саўгасаў спісана 26,7 мільярда рублёў пазыкі. Сума адкладзеных плацяжоў па крэдытах банка складае 145,5 мільярда рублёў.**

**Земляробства: паскараецца дэградацыя глебы — з 200 мільёнаў га пашы змыты 41 мільён, закіслены — 52, выветрываюцца — 93".**

Гэтыя звесткі я ўзяў з той самай "Эканомікі катастроф". Яны датычаць тэрыторый былога Саюза, у тым ліку і беларускай зямлі. Большая частка капіталаўкладанняў у сельскую гаспадарку асела ў аграпромах і іншых установах, а даўгі выкліканы розніцай цэн, што пануе паміж коштам сельгаспрадукцыі і прадукцыяй прамысловасці. Цэны на спажывецкія тавары вельмі высокія. Калі на паліцах крам сёння што і ёсць, дык заслуга ў гэтым больш цэннікаў, а не сельскай гаспадаркі. Калгасы ліхарадзіць. На фермах няма чым карміць жывёлу. Разрыў паміж горадам і вёскай усё павялічваецца. Што рабіць, на што спадзявацца — на фермера? Паводле афіцыйных звестак, плошча фермерскіх гаспадарак на Беларусі складае 0,01 працэнта ад агульнай плошчы сельгасугоддзяў. Дык ці пракормяць фермеры з такім кавалачкам зямліцы ўсіх жыхароў Беларусі, яе гасцей, Маскву, ды й сябе ў дадатак? Безумоўна, не. Калгасы пракормяць? Упэўніліся ўжо, што таксама не.

— *Пакуль што гэтую праблему могуць вырашыць толькі калгасы і фермеры сумеснымі намаганнямі,* — кажа Генрых Міхайлавіч Траццяк. — *Справа ў тым, што сёння немагчыма перайсці на поўнае фермерства — людзі да гэтага не падрыхтаваны. Няма тэхнікі. Фермеру неабходны трактары Т-26, Т-15, "Беларусь". У калгасах іх — заваліся. Кожны год гаспадаркі спісваюць каля 70 працэнтаў старых трактароў, а яны яшчэ здольныя працаваць. Давялі б, выправілі іх фермеры ўласнымі рукамі. А то ж дзе ўзяць простаму калгасніку, пачынаючаму фермеру 200 тысяч рублёў на новы трактар?!*

— Значыцца, трэба падзяліць калгасную тэхніку паміж людзьмі?

— *Мажліва так. Акрамя таго, трэба стварыць мабільныя незалежныя механізаваныя брыгады, што будуць за плату абслугоўваць гаспадаркі фермераў.*

— А што ж рабіць з навыкамі, дзе іх набыць?

— *Вось як у нас: старшыня стварыў курсы пачынаючых фермераў, дзе ўсіх жадаючых выкладчыкі Ляхавіцкага вучэбнага камбіната вучаць азам вядзення гаспадаркі.*

*У мінулым годзе мы ўсім калгаснікам далі па 0,7 га ворнай зямлі. І не проста далі — апрацавалі, засеялі, убралі ўраджай. Людзі аплацілі кошт насення і працы і ўсю зіму мелі чым карміць жывёлу. А ў гэтым годзе мы дадзім усім па гектару. Хто захоча — апрацуе сам, астатнім, як і ў мінулым годзе, калгас дапаможа. Людзей трэба прывучаць да самастойнай працы на зямлі пакрысе. Нахрапам нічога не атрымаецца,* — разважае Траццяк. — *А ўжо праз год, калі хто пажадае, можа ўзяць і пяць і дзесяць гектараў.*

— Але ж вы, атрымліваецца, працуеце супраць сябе ж — аддаяце калгасныя землі?!

— *Іншага выйсця проста няма. Без фермера краіну не накарміць.*

— А кім будзеце вы, калі калгас загіне?

— *Ну, загіне ён яшчэ не хутка, скажам так. А потым, што значыцца: кім буду? Фермерам, канешне! Каму, як не мне, з маімі вопытам і ведамі займацца гэтай справай. Я даўно б ужо сышоў, але не магу пакінуць людзей. Іх трэба падрыхтаваць.*

— А хто будзе выконваць дзяржзаказ?

— *Дзяржзаказ увогуле анахранізм. Фермер, калгаснік павінен мець гарантыю збыту прадукцыі, а не абавязак. Ды ў любым выпадку: не з'есць жа фермер сам усё, што вырасціць на дзесяці гектарах, панясе на рынак.*

У калгасе імя Ламаносава ўжо ёсць адзін фермер. Але Траццяк ставіцца да яго скептычна: маўляў, што гэта за фермер з 2 гектарамі зямлі? З вясны ўсе калгаснікі будуць мець па 1,7 гектара ва ўласнай гаспадарцы. Але і такі пачатак — таксама пачатак.

Я мару, каб калгасны лад знік канчаткова. Гэта штучная, выдуманая з'ява. Не можа быць зямля без гаспадара.



**Зміцер Лукашук.**
**Фота Я.Коктыша.**

# Пушкінскія беларусы




*Больш за паўтара стагоддзя мінула са дня гібелі Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Час імчыцца, і ўжо яго прапраўнукі маюць перадпенсіённы ўзрост. Большасць з іх жыве ў былым Савецкім Саюзе, некаторыя — за мяжой. Думаю, беларусам будзе цікава даведацца пра беларускія генеалагічныя карані вялікага паэта. Тэму гэтую распрацоўвалі многія навукоўцы, літаратары, проста энтузіясты: Ц.Б.Ліякумовіч, Н.І.Лапідус, іншыя. Іх працы друкаваліся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, выходзілі асобнымі кніжкамі.*

Ад раніцы і да змяркання
Паміж лясоў, балот, пяскоў
З выгнання едзе ў выгнанне
Паэт дарогаю на Пскоў.

На Беларусі снее лета,
Жывіцай дыхае з бароў,
І тут, здаецца, у паэта
Няма ні блізкіх, ні сяброў...

А ён гайдаецца ў карэце
Пад песню жней насустрач дню
І знае, што на белым свеце
Ён мае блізкую радню.

**(С.Грахоўскі.
Урывак з верша "Радня").**

Жыццёвыя шляхі Пушкіна двойчы прайшлі праз Беларусь: у маі 1820 года, калі па загаду Аляксандра I накіраваўся ён у высылку ў Екацярынаслаў (Днепрапятроўск) пад начальства генерала Інзава — многія маглі тады бачыць паэта ў чырвонай кашулі, запаясанага, у паяркавым капелюшы; і праз чатыры гады (у жніўні 1824 года). Цяпер яго шлях ляжаў у новае месца высылкі — Міхайлаўскае. Беліца, Чачэрск, Полацк, Віцебск, Орша, Магілёў, Бабінавічы — гарады Беларусі, праз якія праехаў (ці пабываў у іх).

Затое нашчадкі яго будуць цесна звязаны з Беларуссю.

Наталля Аляксандраўна, унучка паэта, упершыню пабывала тут яшчэ ў дзяцінстве. У Навагрудку стаяла тады часць, дзе служыў яе бацька Аляксандр Аляксандравіч. У 1881 годзе Наталля выйшла замуж за Паўла Аркадзьевіча Варанцова-Вельямінава, праз некалькі гадоў той падаў у адстаўку і пераехаў з жонкаю ў маёнтак сваёй маці Вавулічы (цяпер вёска Дубоўка, ля Бабруйска).

Наталля Аляксандраўна цікавілася мясцовымі паданнямі, любіла слухаць народныя песні, а хутка пачала і разумець беларускую мову. Соф'я Паўлаўна, яе дачка, успамінала, як пры сустрэчах са сваім бацькам Наталля Аляксандраўна расказвала яму пра жыццё беларускіх сялян, пра беларускую зямлю і культуру, якія сталі для яе роднымі.

Сям'я Варанцовых-Вельямінавых дапамагала сялянскім сем'ям хлебам, грашыма, лекамі, клапацілася аб тым, каб сялянскія дзеці авалодалі граматай, спрыяла пабудове ў вёсцы Цялуша школы. Сімвалічна, што маці беларускага паэта Міколы Аўрамчыка, калі была малою, на свае вочы бачыла, як адкрывалі тую школу. І, вядома, у іх сям'і не магло не гучаць пушкінскае слова...

Варанцовы-Вельямінавы бралі ўдзел у стварэнні Бабруйскай гарадской бібліятэкі, якая была адкрыта ў 1901 годзе і носіць цяпер імя вялікага паэта. А вось як "шануюць" спадчыну Пушкіна ў наш час. Ц.Б.Ліякумовіч у сваёй кнізе "Потомки Пушкина в Белоруссии" піша: "Драўляны дом унучкі паэта па вуліцы Сацыялістычнай знеслі ў 1973 годзе (дом пабудаваны на пасаг Наталлі Аляксандраўны). Цяпер на яго месцы пабудаваны гарадскі Палац шлюбу".

У 1912 годзе ад запалення лёгкіх Наталля Аляксандраўна памерла.

* * *

...Ён бача, як з громам ляцяць кайданы,
Як сонца краіне ўзыходзіць.
Так Пушкін — навечна, пракрокам вясны
Жывым застаецца ў народзе.

Так пісаў Кастусь Кірэенка ў 1949 годзе. Вядома, хацелася б бачыць Пушкіна жывым, але (ці мог не ведаць пра гэта Кірэенка?) нават нашчадкаў паэта не жадалі дапусціць у "камуністычны рай".

Марыя Паўлаўна Варанцова-Вельямінава (1883—1932) — старэйшая дачка Наталлі Аляксандраўны, праўнучка паэта. Яе муж, Яўген Іпалітавіч Кліменка, бабруйскі юрыст. У сям'і было шасцёра дзяцей. Марыя Паўлаўна і яе муж раздзялілі лёс мільёнаў "ворагаў народа", былі высланы ў Курск, дзе ў 1932 (!) і загінулі.

Соф'я Паўлаўна Варанцова-Вельямінава (1884—1974) — другая дачка Наталлі Аляксандраўны. На Бабруйшчыне праходзяць яе дзіцячыя гады. Сялянам Соф'я Паўлаўна запомнілася цёплай, ветлівай, сяброўскай, у беларускім нацыянальным уборы. Захаваўся нават фотаздымак, дзе наша "беларусачка" ў нацыянальным адзенні і лапцях... Але зноў жа — муж Соф'і Паўлаўны Усевалад Аляксандравіч Калагрываў рэпрэсіраваны ў 1938 годзе, расстраляны ў турме на самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Рэабілітаваны ў 1956-м. Сама ж Соф'я Паўлаўна каля двух месяцаў правяла пад арыштам. Яе сыны Саша і Алег выхоўваліся ў дзіцячых дамах і калоніях.

Але нічога не магло атруціць святую любоў гэтай сям'і да Беларусі. "Мы любілі Беларусь і заўсёды ганарыліся ёю", — прызнаецца пасля ўсіх няшчасцяў Соф'я Паўлаўна. Любоў гэтая перадасца і дзецям. Так Аляксандр Калагрываў захопіцца беларускай паэзіяй, прынамсі, Максімам Багдановічам, сто разоў чытацьме на памяць яго "Слуцкія ткачыхі" і "Перапісчыка". Алег Усеваладавіч (як і яго старэйшы брат) добраахвотнікам ідзе на фронт бараніць Радзіму ад ворага.

* * *

Паэт стаў любімым у народзе, але не ў яго "кіруючых колах". Тое ж можна сказаць і пра нашчадкаў паэта. Пусцее бабруйскае радавое гняздо ўнучкі Пушкіна. Адну за адной забіраюць рэпрэсіі нявінныя сем'і, а іншыя і самі пакідаюць родны край, ратуючыся ад сталіншчыны. Надоўга засталася праправнучка паэта Наталля Яўгенаўна Кліменка ў вёсцы Югалін, каля Баранавіч. Рыжскі мірны дагавор перакрыў ёй шлях дадому. А ў 1940 годзе Наталлю Яўгенаўну і дваіх дзяцей (муж загінуў у турме ў гэтым жа годзе) выслалі ў Казахстан.

Ірына Яўгенаўна Кліменка апынулася ў Маскве, а яе сястра Вольга Яўгенаўна Кліменка пераехала ў Рагачоў, працавала ў пачатковай беларускай школе ў Глускім раёне. Вольгу Яўгенаўну ў гэты час запомніў беларускі паэт Сяргей Грахоўскі, бо яна вучылася і сябравала з яго стрыечнай сястрой, колькі дзён жыла ў яе. Вось што піша пра гэта Сяргей Іванавіч у сваёй кнізе "Так і было": "Я ўспомніў, што ў 1931 годзе пасля рагачоўскіх педкурсаў у Глуск прыехала праправнучка Пушкіна Вольга Яўгенаўна Кліменка. Паслалі яе ў Азямлянскую школу... Яна мне запомнілася маладзенькай, з кучаравымі светлымі валасамі, заўсёды маўклівай і задуменнай".

Таццяна Яўгенаўна Кліменка (Гуцко) (1913) і Марына Яўгенаўна (1915), малодшыя дочкі Марыі Паўлаўны Варанцовай-Вельямінавай, напрыканцы дваццатых пераехалі з Бабруйска ў Маскву. Самы малодшы ў сям'і быў сын Сяргей Яўгенавіч Кліменка (1918—1990), які правёў сваё дзяцінства на Бабруйшчыне. "Беларусь застаецца для мяне роднай усё жыццё. І я беларускую мову не забыў", — пісаў ён.

Сяргей Яўгенавіч з пашанай ставіўся да беларускай літаратуры. Неяк у час святкавання 175-годдзя А.С.Пушкіна ў Ерэване ён пазнаёміўся з беларускай паэтэсай Еўдакіяй Лось, вершы якой чытаў да гэтага. Шмат гадзін прайшло ў цікавых размовах, усталявалася моцнае сяброўства. Еўдакія Лось напіша потым верш:

"Хачу беларускага неба і сосен,
прышліце мне вашага лёну..."
Хто піша пісьмо, наша роднае слова
Уплятаючы сціпла ў кожны радок?
Каму дарагая здалёку размова
З тым краем, дзе памятны кожны куток?..
Стыль Пушкіна, Божа... У сэрцы трымценне...
Дух Пушкіна — тут ён, у просьбе з Масквы...

Ідзе час. Новыя пакаленні нашчадкаў Пушкіна звязваюць свае лёсы з Беларуссю. Ад апошняга выстралу на дуэлі і да нашых дзён не патухае велічны агонь паэтавай душы.

## Заміж пасляслоўя

Паводле вучэння Піфагора, згодна з якім душа прыходзіць на гэты свет праз сем пакаленняў, Пушкін зноў нарадзіўся... І імя яму далі такое ж — Аляксандр. А ці дачакаемся мы сваіх Скарынаў, Купалаў, Багдановічаў?..

**Алесь Пашкевіч.**

## Генеалагічнае дрэва беларускіх нашчадкаў А.С.Пушкіна.




**(Склаў Ц.Б.Ліякумовіч).**




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№ 4 (194)

*Канцэрты*

# "БЕЛАРУСКІЯ БАРДЫ" – LIVE

*Згадзіцеся, гэта ўсё ж унікальная ў нас, у Беларусі, падзея: купіць білет (хай сабе за 5 рублёў) і пайсці на канцэрт, дзе ўсе зоркі — беларускія. І зала біткам набітая — яблыку не ўпасці, — і сярод публікі мова родная сям-там чуваць. Гэты канцэрт арганізавалі 20 студзеня радыёстанцыя "Беларуская маладзёжная", літаратурна-драматычная рэдакцыя Беларускага тэлебачання і Бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў Беларусі. Дзея адбывалася ў менскім Доме літаратара.*



Прызнацца, калі я даваў папярэднюю абвестку аб канцэрце, дык дапусціў невялікую памылку: "Там нас чакае пара гадзін добрага адпачынку".

Не, не адпачынку, а суперажывання, саўдзелу ў адраджэнскім працэсе.

Калі гаварыць пра адпачынак, дык ён асацыіруецца хіба з трыма-чатырма ўдзельнікамі канцэрта: Аляксандр Баль, Алена Казанцава, Зміцер Растаеў ды яшчэ, магчыма, Зміцер Яўтуховіч, які трапіў у бардаўскую хеўру са сваім гармонікам яўна выпадкова. Не скажу, што публіка была незадаволеная: зухаватыя беларускія шлягеры Змітрака Яўтуховіча зала нават дружна падпявала, бо большасць з іх папулярныя ў народзе.

У выступах Зміцера Растаева і Алены Казанцавай адчувалася імкненне забавіць, развесяліць публіку грубаватым гумаркам, падчас з пашлінкаю, што — натуральна — гарантавала слухацкі водгук "у дадзеную хвіліну", але неяк так і не зафіксавалася ў душы, "пра што табе тут дзяўблі ў вушы".

Аляксандр Баль запомніўся ледзь не тым жа эфектным ззяннем... мыльнай бурбалкі. Каб ягоны выступ ацэньваць па балах, якія выстаўляць за кожны складаны элемент, ён, бадай, мог бы прэтэндаваць на перамогу. Што ж да мастацкіх крытэрыяў, дык чаго вартая адна базарная фраза, кінутая цішком: "Якая розніца, на якой мове спяваць, абы культурна...".

Калі гаварыць пра культурнасць, дык, скажам, і Алесь Камоцкі імкнецца не да неахайнасці на сцэне. Але песні ягоныя заклікаюць да культуры, не руйнуючы самога стрыжня любой культуры — мовы, яны садзяць дрэва не ў каменне, а ў глебу. Алесь выступіў у канцэрце з творамі свайго новага амплуа — тэатральнага барда. Гучалі песні са спектакляў тэатра-студыі "Дзе Я". У іх — лёс паэта ў чэрствым грамадстве (дзе "абы культурна..."), узаемаадносіны асобы і супольнасці, адказнасць асобы перад сабой у гістарычных водаваротах... Памятаю, як калісьці Камоцкі выходзіў на сцэну гэткім сціплым "спяваючым студэнтам". Цяпер — зусім не тое. Гэта асоба, якая мае выразны сцэнічны вобраз. Ён, сапраўды, не проста спявае, а грае пранікнёныя драматычныя ролі.

А калі гаварыць пра выступ Ігара Добрага, дык і тут імкненне да прафесіяналізму ідзе поруч з глыбокім імкненнем да духоўнасці. На канцэрце Ігар, як і ў сваіх нядаўніх тэлепрэм'ерах, падарыў слухачам сустрэчу ў песнях з беларускай эміграцкай паэзіяй.

Дарэчы, усе лідэры беларускай бардаўскай песні, што ўдзельнічалі ў тым сэйшне, праявілі імкненне да пастаяннага творчага абнаўлення, як залогу трывалага жыцця. Вось і гамяльчанка Вальжына Цярэшчанка ўпершыню вынесла на суд слухачоў свае песні на вершы выдатнай паэткі з Гародні Дануты Бічэль-Загнетавай. Яны пажаночаму пяшчотныя, тужлівыя, заклапочаныя. Карацей кажучы, натхненне Вальжыны і майстэрства Дануты Янаўны падарылі нам папросту шчырыя песні. Праўда, навізна навізною, але менавіта Вальжыне пры ўсім ейным жаданні не ўдалося пазбегнуць творчых рэмінісцэнцый, успамінаў пра былое: публіка гэтак настойліва (працяглымі апладысментамі ды выгукамі) патрабавала бардэсу выканаць шырокавядомы ейны супергіт "Запяі мне песню" на верш Ларысы Геніюш, чаго нельга было адмовіць.

Яшчэ адна спадарыня беларускай бардаўскай песні — палачанка Лера Сом. Для адных гэта пакуль толькі адкрыццё, для другіх ейнае імя нясе цвёрдае абяцанне цікавых таямніц. Справа ў тым, што беларуская песня (дый ці не ўвогуле культура) загнаная пакуль у абмежаваныя прасторы: нешматлікія газеты, не надта шыкоўныя залы, ніякіх дыскаў, кліпаў, фільмаў... Дык ці не красамоўны сам факт, што ў такіх умовах Лера Сом здолела стаць "адкрыццём 1991 года" на замежным фестывалі песні ў Беластоку? Дый у Менску яе ведаюць, хоць выступае яна тут рэдка. З канцэрта ў душы застаўся пасля ейнага выступу вобраз сучаснай нэарамантычнай, але неўладкаванай гараджанкі, якая з болем і — мабыць — бяссіллем адчувае, як наўкола высокае моцна прыціскаецца нізкім. У мяне ўзнікла думка, што паводле Лерыных бардаўскіх песень маглі б атрымацца цудоўныя, відовішчныя і экспрэсіўныя відэакліпы (скажам, "Па дарозе з Вільні на Полацак"). Але пакуль радуе і тое, што хоць праз гэты канцэрт яна ўпершыню трапіць на тэлеэкран, бо яго ж запісвалі ажно чатыры камеры нашага БТ.

Цікавыя перыпетыі лёсу творчых асобаў: мы ўжо ніколі не зможам пабачыць у відэазапісе, як пачыналі ўзыход нашыя бардаўскія зоркі — Алесь Камоцкі, Вальжына Цярэшчанка, Сяржук Сокалаў-Воюш. Тыя, хто прыйшоў услед за імі, толькі сёння падыходзяць да сваіх тэлепрэм'ер. І сёння ж разам з той жа Лерай Сом мы зможам убачыць на экране і зусім юную Вольгу Акуліч. Здаецца, зусім нядаўна адкрыла яе "Чырвоная змена" для сваіх чытачоў, дзяўчына паверыла ў сябе і з усё большым імпэтам выходзіць на адказныя творчыя імпрэзы. Магчыма, яшчэ няма цэльнага сцэнічнага вобраза, магчыма, яшчэ праскокваюць недакладныя ноткі, але можна спадзявацца, што будзе тут і ўпэўненасць Алеся Камоцкага, і выразнасць іміджу Вальжыны Цярэшчанкі. Карацей, будзе беларуская бардэса Вольга Акуліч.

Як бачыце, адзін канцэрт, а колькі адкрыццяў: і цалкам новага, і новага ў старым знаёмым. Прызнацца, такія канцэрты апошнім часам усё ж здараюцца больш часта, чым раней. Але выключнасць менавіта гэтага ў тым, што на ім пабывала Беларускае тэлебачанне. І нашыя прыватныя радасці стануць падзеяй рэспубліканскай важнасці. Карацей кажучы, нармальнае дарасце да рэальнага. Бо беларуская песня ў Беларусі павінна адчуваць сябе, як на радзіме, а не на выгнанні.

**Вітаўт Мартыненка.**

На здымках:
- Спявае полацкая бардэса Лера Сом.
- На сцэне выступае Вальжына Цярэшчанка з Гомеля.

**Фота У.Панады.**



Гэты гурт пачаў з сімфа-рока, працягваў у панк-року, спяваў па-беларуску, працягваў па-расейску, пакуль, нарэшце, не знайшоў сябе ў інструментальным рок-авангардзе.

Сёння "Зарціпо" адзін з найбольш канцэртуючых калектываў: сумесныя канцэрты з менскай "Мрояй", маскоўскай "До мінор" і г.д. На фірме "Мелодыя" гурт запісаў альбом, які так і называецца – "Зарціпо". Як паведаміла "Выбранецкая служба інфармацыі", у Ніжнім Ноўгарадзе адбыўся фестываль джазавай музыкі, на якім менскі калектыў быў прызнаны адным з лепшых.

Менеджмент: тэлефоны ў Менску 25-23-71, 38-94-39, Андрэй Іваноў.

Фота А. ТОКАРА.



Фотаплакат №47





# зар-
# дзіно

## ЗЯМЛЯ

(з сімфа-рок паэмы "Сёмая хвіліна")

Музыка Андруся ІВАНОВА
Словы Алеся КАСЦЕНЯ

*Ад усіх цяпер патомкі ёсць,*
*Ды няма адных — страмцівых.*
**(М.Багдановіч)**

Ты розуму не слухаеш, зямля:
Як Страцім-лебедзь, падняла
на крылы
Усю зброю, што на згубу дню
адкрылі
Да Ноева каўчэга і пасля.
Дваццаты век, сыходзячы,
плыве.
Ды толькі войны
джалы прыхавалі,
Ды, стогнучы, бягуць на бераг
хвалі
З глыбінь, якіх не зведаў
чалавек.
О, чалавек!
Ён першы вораг твой;
Чарговы крок — ніжэй над
морам суша.
О, чалавек!
Яго паэтаў душы —
Да ран тваіх
гаючы траў сувой.
Плыві, бліжэй да вечнасці,
Зямля,
Люляй аратых, дойлідаў,
паэтаў —
Нязводнае святло над гэтым
светам,
Ва ўсім сусвеце
бачнае здаля.

## *Спяваем па-беларуску*

# У ЧАРОЦЕ ПТУШКА НАЧАВАЛА

*Музыка Алега Паўлёнка*
*Словы Анатоля Сыса*

У чароце птушка начавала,
Ой, лю-лю! Ой, лю-лю!
Пад галоўку скрылечка падклала,
Ой, лю-лю! Ой, лю-лю!

А як ночку мне заначаваці,
Не пускае ў хату мяне маці.

А чарот на возеры вяночкам,
Ночка, ахрысці майго сыночка,

А ў грудзёх разбітае сардэнька,
Ночка, дзе мой любы казачэнька?

У чароце птушка начавала,
Ой, лю-лю! Ой, лю-лю!
Пад галоўку скрылечка падклала,
Ой, лю-лю! Ой, лю-лю!

А як ночку мне заначаваці,
Не пускае ў хату мяне маці.






## *Нататнік*

Пайшлі чуткі, што ансамбль "Сябры" спыніў сваё існаванне. Аднак, гэта не зусім так. Проста Анатоль Ярмоленка, абнавіўшы састаў, стварыў пры аб'яднанні "Менскканцэрт" уласную студыю "Сябры". Адна з задач новага прадпрыемства — падтрымка маладых талентаў нацыянальнай поп- і рок-сцэны. Сёння пры студыі "Сябры" працуюць два калектывы: "Белбойз" і "Рокіс". Кантракт з апошнім студыя падпісала пасля трыумфальных канцэртаў у Слуцку, дзе публіка завялася настолькі, нібыта ўжо паспяхова скончылася перабудова.

* * *

Загартаваныя яшчэ гадамі застою рок-фаны, відаць, памятаюць эстонскі рок-гурт "Вітамін", які неадноўчы гастраляваў у Беларусі напачатку 80-х, дыскі якога знаходзіліся ў лідэрах нашага хіт-парада ў сярэдзіне 80-х (гл. "ЧЗ" № 11 ад 15.1.1984 г.). Чым цяпер займаецца "Вітамін" ці, прынамсі, ягоны лідэр Петэр Вяхі? Натуральна, гэты прафесійны музыкант не кінуў музыку, як і яго самога не кінуў поспех. На заходненямецкай фірме "Erdenklang" Петэр Вяхі запісвае сольны кампакт-дыск. А ў самой Эстоніі? Шмат часу займае праца ў аргкамітэце фестывалю "Orient'92", які пройдзе з 19 па 24 красавіка.

* * *

Хто можа нарадзіцца ад шлюбу рок-журналіста і паэткі? Напэўна, рок-вакалістка, бо ад 14 студзеня г.г. Альдона Мартыненка (Ермаковіч) магутна бярэ першыя беларускія акорды сваім меццa-сапрана, цудоўна падпяваючы гурту "Рокіс", калі па тэлевізіі гучыць ягоны варыянт "Пагоні". А тым часам, дарэчы, юнiёр Стасік Мяльгуй ужо здольны кранаць пальчыкам струны бас-гітары. Расце новае беларускае рок-пакаленне.

* * *

Класіка ніколі не памірае — гэтаісціна. Такая ж праўдзівая яна і ў року. Класіка беларускага рока — "Бонда" — дала жыццё шэрагу калектываў. Дый сёння ніводзін з ейных музыкаў не сядзіць без справы. Мы паведамлялі ўжо пра новыя працы Ігара Варашкевіча, Сержука Кныша ды іншых "бандытаў". Зусім нядаўна даў шэраг канцэртаў і Янка Маркаў са сваім гуртом "Літл блюз". Калектыў выконвае сусветную рок-класіку — творы Чака Бэры, Літл Рычарда, Джымі Хендрыкса. Гурт цяпер стала працуе пры Менскім альтэрнатыўным тэатры, што знаходзіцца на скрыжаванні вуліц Крапоткіна і Веры Харужай.

* * *

У мінулым месяцы споўнілася першая гадавіна з дня смерці наваполацкага гітарыста Алеся Жалдакова. Яго вы бачыце на здымку ў цэнтры побач з калегамі з гурта "Сталкер". Сябры наваполацкага рок-клуба адзначылі сумны дзень хвілінай маўчання на гарадскіх могілках і — новымі поспехамі мясцовых каманд.



## *Падзея*

# "Вы з Эўропы? Праходзьце!"

Тытулаваныя і проста маленавітыя музыканты з 15 эўрапейскіх краінаў збіраліся ў кіеўскім палацы "Украіна" 24–26 студзеня.

Можна напэўна сьцьвярджаць, што нічога падобнага ўкраінская сталіца дагэтуль не бачыла... Прыгадваецца 1990 год. Тады фэст "Міс-Рок-Эўропа-90" таксама сабраў нямала музыкаў эўрапейскага кантынэнту, якія разам з арганізатарамі фэсту паказалі кляс "совковаму-бізнэсу".

Хто ж на гэты раз вырашыў "пераскочыць" той нашумелы фэст? Гэта смельчакамі з'явіліся арганізатары "Міс-Рок-Эўропа-92", якія задумалі пераўзысьці саміх сябе. Што ж, набыты досьвед ім у дапамогу. А яшчэ ў дапамогу спонсары: біржы, акцыянерныя таварыствы, гандлёвыя дамы, сумесныя прадпрыемствы, заводы.

Падбору спонсараў адпавядае і склад удзельнікаў, прабачце, удзельніц. Бо безальтэрнатыўныя гераіні гэтага фэсту – жанчыны. Тыя самыя, што аспрэчваюць агульную думку, быццам "у рока не жаночае аблічча".

Акрамя спявачак і музыкантак, якія бралі ўдзел у першым фэсьце, такіх як "Віка" (Львіў), "Насьця" (Екацярынбург), "Лола" (Нямеччына), "Лав Крэлт" (Аўстрыя) нямала новых цікавых імёнаў. Маскоўскі "Атас", вэнгерская "Металёвая Лэйдзі", грузінскі "Шанс", ізраільцянка Наталі Гордан, італьянкі з "Фанкі Лінс". Гэтыя выканаўцы не выглядалі блякла нават на фоне такой яскравай зоркі, якою з'яўляецца Джоана Стынгрэй.

А яшчэ, ва ўсе дні музычнае фееры дзейнічаў бізнэс-цэнтар, праводзіўся продаж разнастайнага дэфіцыту. Прэса мела магчымасьць вольнага скарыстання факсу, міжгароднага тэлефону і буфету.

Падрыхтаваў Ігар Міхно.
("Выбранецкая інфармацыйная служба").



## *Фанатэка*



### "Б-52-гі"
### "ПАДСКОКВАЮЧЫЯ СПАДАРОЖНІКІ"
### Варнер броз, 1986

Яшчэ адзін наш стары знаёмы – амерыканскі рок-гурт "Б-52'S". 19 ліпеня мінулага года мы прадстаўлялі адзін з апошніх альбомаў калектыву – "Касмічная справа". Сёння маем намер паглыбіцца ў дыскаграфію цікавага выканаўцы.

Калі ўсе мы напрыканцы студзеня цэлы тыдзень мелі магчымасць знаёміцца з прадукцыяй аднаго з гігантаў амерыканскага шоу-бізнесу ў самых розных галінах ("Warner Bros. TV", "Warner Bros. Pictures", "Warner Bros. Home Video" і г.д.), дык дасюль ніхто, на жаль, так і не пазнаёміў з прадукцыяй "Warner Bros. Records", хоць яна і не менш прыкметная.

Анатуемы альбом акурат і зроблены гэтай фірмай.

Слухачу, які дастане кружэлку з канверта, адразу кінецца ў вочы надпіс на тэкставай устаўцы-пакеце:"Прысвячаецца памяці Рыкі Уільсана".

Хто такі гэты Рыкі Уільсан?

Калега музыкаў, гітарыст, адзін з тых, хто ў 1977 годзе быў сярод заснавальнікаў ансамбля "B-52'S", але смерць не дала яму нават сустрэць дзесяціголдзе калектыву. Праўда, ён паспеў яшчэ прыняць удзел у стварэнні гэтага альбома як гітарыст, бас-гітарыст і нават вакаліст.

Дыск "Падскокваючыя спадарожнікі" запісваўся наступным складам: Кэйт Персан, Цындзі Уільсан, Кэйт Стрыкланд, Тоні Мансфільд, Марк Мазур, Цім Ролінз, Фрэд Шнэйдэр, Джон Коўт, Том Бекерман і, зноў жа, Рычард Уільсан. Не называем тут амуніцыю кожнага інструменталіста, бо ўсе яны даволі ўніверсальныя музыкі. Скажам хіба, што ў ансамблі гучаць (акрамя традыцыйнага набору гітар, клавішных і ўдарных) яшчэ і сітар, гармоніка, арган і г.д.

Што да стылістыкі музыкі гурта, дык зноў жа паўторым кароткую ейную характарыстыку з мінулай рэцэнзіі: "Гэта рок (нью-ўэйв), не пазбаўлены завадных танцавальных рытмаў".

Без асаблівых прэтэнзій і тэксты песень, хоць нават у тэме кахання "B-52'S" імкнецца выказацца не банальна, шчыра, па-свойму. Вось назвы сонгаў, якія склалі анатуемы альбом: "Лета кахання", "Дзяўчынка з Іпанэмы адпраўляецца ў Зялёную краіну", "Хатняе заданне", "Блуканне з-за тваёй асцярожнасці", "Парык", "Тэма для дзікага пляжа", "Гэта не сорамна", "Заманлівыя джунглі", "Абвестка", "Яе спыняе вясёлка".

Мастацкая аздоба альбома (пад рэдакцыяй Кэйта Бэнэта і Кава Дэлюкса) належыць графіку Кэні Шчарту і фатографу... Кэйту Стрыкланду.



### "ЛАКАМАТЫЎ ГТ"
### "ЛОКШЫ"
### 2ЛП Пепіта, 1980

Гэты калектыў вядомы нашай публіцы і па так званых "фірмовых" дысках (запісы на "Сі Бі Эс"), і па прадукцыі фірм нашых былых ідэалагічных партнёраў ("Муза", "Пепіта", "Супрафон"), а потым і па асабістых сустрэчах на канцэртах. У свой час лідэр калектыву Габар Прэсар нават даваў інтэрв'ю карэспандэнтам "Чырвонай змены", пакінуўшы чытачам газеты і асабісты аўтограф на беларускай і венгерскай мовах (гл. "ЧЗ" № 107 ад 6.06.1985 года). Тым не менш зусім не пашкодзіць паглыбіць наша знаёмства, дзеля чаго ў "Фанатэцы" мы вырашылі пагартаць старонкі яшчэ аднаго выдання ў багатай дыскаграфіі калектыву – падвойнага альбома "Локшы".

"Loksi", як тлумачыў нам сам Габар Прэсар, гэта памяншальна-пяшчотная форма ў венгерскай мове ад самой назвы гурта. Па-беларуску гэта найбольш дакладна перадало б, бадай, слова "Лакаматыўчык".

Альбом прываблівае ўжо самой кампазіцыйнай структурай – цікавай і арыгінальнай. Ён складаецца з трох канцэптуальна завершаных частак і адной зборнай.

1. "Сон". У гэтую сюіту ўвайшлі тры кампазіцыі Габара Прэсара і Душана Стэванавітага: "Пралог і трыялог", "Узгадай мяне", "Калі прыйдуць анёлы".

2. "Жыццё". Тут пануе той жа аўтарскі дуэт ("Бокс", "Сізіфавы блюз"), але другую і чацвёртую кампазіцыю часткі ("Машына" і "Бесчалавечная песня") дапамагаў пісаць таксама бас-гітарыст ансамбля Тамаш Сомло.

3. "Гульня". У гэтай пяцічасткавай сюіце здолелі праявіць свае кампазітарскія здольнасці амаль усе ўдзельнікі гурта: той жа Тамаш Сомло ("Прымадонна", "Мы граем", "Вельмі прагну твайго кахання"), гітарыст Янаш Карацоны ("Каболо", "Песня – наша").

4. "Чацвёрты бок". Тут, здаецца, няма ніякай канцэпцыі, а проста добрая падборка гітаў: "Дабраславі нашу песню" (Карацоны–Стэванавіты), якою пачынаецца і завяршаецца гэты бок, "Сентыментальны рок-н-рол" і "Кіно" (Прэсар–Стэванавіты). "Калі прыйдуць д'яблы" (Прэсар). Але не будзем сцвярджаць, што гэтыя гіты не звязаны з усёй канцэпцыяй альбома.



### "ПЕСНЯРЫ"
### "У МЕСЯЦЫ ВЕРАСНІ"
### Мелодыя, 1978

Славутыя беларускія "Песняры", як пачынальнікі нацыянальнай поп-дыскаграфіі, не ўпершыню гасцююць у нашай "Фанатэцы". Шкада, не ўсе дыскі гэтага калектыву нароўні можна аднесці да скарбаў нашай культуры, але нельга не згадзіцца, што шырокая папулярызацыя беларускай песні за тысячы кіламетраў ад межаў рэспублікі звязана менавіта з ансамблем "Песняры". Дый што казаць: тое, што ў далёкай Амерыцы ўзышла яскравая зорка Данчыка, "вінаватыя" таксама "Песняры".

Калі мы прыгадвалі тут яшчэ адзін ранні альбом "Песняроў" – "Спадчына і іншыя песні", 1974 (гл. "ЧЗ" ад 24.01.1989), было зазначана, што менавіта гэты перыяд быў сапраўды зоркавым для гурта. Усё было на слыху: хто сышоў з калектыву, хто яго замяніў, дзе адбыліся чарговыя гастролі і г.д. Відаць, таму, што першыя крокі (у адрозненне ад наступных) былі унікальныя: ансамбль выносіў на свет тое, чаго мала хто чуў – сапраўдную, шматгранную, сучасна аранжыраваную народную песню. Нават мова песень – беларуская – была тады для многіх (у тым ліку і ў Беларусі) нечаканым адкрыццём.

Чарговая падборка – "У месяцы верасні ды іншыя песні" – з'явілася ў свой час доўгачаканым сюрпрызам. І... пакуль яшчэ не падманвала спадзяванняў публікі.

Знакамітыя "Перапёлачка", "Рэчанька", "Саўка ды Грышка", "Каліна", "Дзяўчына-сардэнька", крыху прызабытыя "Машанька", "Ой, ляцелі гусі"... Усе гэтыя песні радавалі слых багаццем настраёвых фарбаў, жывасцю мовы, свежасцю аранжыровак.

Кружэлка запісаная, бадай, адным з лепшых саставаў "Песняроў", куды ўваходзілі і У.Мулявін, і А.Кашапараў, і Лявон Барткевіч...

Варта сказаць колькі слоў пра мастацкую аздобу выдання. Для тагачаснай шэрай прадукцыі фірмы "Мелодыя" яна вызначалася шчодрасцю выяўленчых сродкаў: каляровы відарыс на тытульным баку канверта і чорна-белы – на зваротным, эфектны шрыфтовы дызайн. Праўда, як заўсёды, прысутнічала і неахайнасць. Скажам, назвы твораў пададзены на такой трасянцы, што іх не прачытае ні беларус, ні расеец, дый нават замежнік які не перакладзе: "В месяце вересне", "Девчіна-серденько"...

І ўсё ж, калі нарэшце адновіцца беларуская фірма грамзапісу, у серыі "Беларускі поп-архіў" непазбежна зойме сваё месца адзін з ранніх альбомаў "Песняроў".

La estrella, esa que buscas,
se oculta apenas en la n
Un intenso suspiro al menos
un mirar hacia adentro.

# Самвыдаўца з Гранады

*Трыццацігадовы андалузскі літаратар Хорхэ Фэрнандэс Бустос жыве і працуе ў Гранадзе. Ён піша філасофскія верлібры, эратычныя вершы, невялічкія апавяданні, спрабуе ўласныя сілы і ў драматургіі.*

*Перад маладым літаратарам паўстаюць такія ж цяжкасці, як і перад тутэйшымі "пачаткоўцамі" — выдаць кніжку за сродкі выдавецтва.*

*Але нельга сцвярджаць, што хлопца зусім не друкуюць. Яго асобныя творы часам з'яўляюцца на старонках альманаха, які выдае Гранадскі універсітэт. Дарэчы, паліграфічная якасць часопіса не саступае нашай "Маладосці".*

*Сваю ж прагу выдання ўласных кніжак Хорхэ рэалізуе даўно звыклым для Іспаніі і толькі сёння рэальным для нас сродкам. Ён друкуе кніжкі на дамашнім камп'ютэры. Засмучае адзінае, наклад гэтых выпускаў — мізэрны. Што ж, можа Хорхэ Фэрнандэс Бустос стане знакамітым дзякуючы прызнанню на Беларусі? Гісторыя літаратуры ведае шмат прыкладаў, калі вядомасць да пісьменніка прыходзіла з-за мяжы.*

*Сёння я прапаную аматарам "літаратурнага замежжа" вольныя пераклады з лірычнага зборніка "Тэрміновае ўручэнне цнатлівага кахання", надрукаванага метадам самвыдату ў 1989 годзе, і з апошняга зборніка, які адважна названы літаратарам: "Паэмы для спеваў у вадзе". Дарэчы, абодва зборнікі графічна афармлены самім жа аўтарам. Спадзяюся, што і празаічны "опус" створыць у нашага чытача ўяўленне аб узроўні, тэматыцы і выяўленчых сродках, на маю думку, таленавітага прадстаўніка сучаснай андалузскай літаратуры.*

Андрэй Смірноў.



## З кніжкі "Тэрміновае ўручэнне цнатлівага кахання"

Няма жанчыны, што мне дапаможа
павыбраць між дамоўкай і дарогай,
жанчыны, каб сагрэла крыху кавы,
шляхецкае рызззё маё зацыравала.
Няма вачэй, якія б на мяне глядзелі,
далоняў, у якіх бы я растаяў.
Дзе ложак той, які мяне чакае?
Дзе вусны тыя, што мяне спатоляць?

І толькі ў люстры таямнічая хітрынка
мне не дае маніць надалей:
ёсць яны.

* * *

Зорка тая, якую ты шукаеш
схавалася. Ледзь бачна з-за туману
твайго дыхання. Зорка ўсё знікае...
А ты глядзіш
і па-былому адчуваеш
усе знічкі,
што калісьці пахавала
ў белізне тваёй цудоўнай скуры.



Дазволь нябожчыкам хаваць
усіх умерлых.
Дазволь і сонцу нараджацца
кожнадзённа.
Пакінь душы свабоднай
неўміручасць...

Бо кожны позірк у мінулае
няўдзячны
па каліву заб'е тваю нядзелю,
якой ты прагнеш,
каб гуляць у жыццё.

* * *

Сёння ты ўсё кінула, прыйшла
ў маю закінутую келлю.
Прапануеш цалавацца давідна,
але дождж ідзе, наўрад ці развіднее.

Можа б я й згадзіўся падзяліць
цеплыню тваёй квяцістай хусткі...
Вечар. Дождж. І сонцу не карціць
асвяціць мой ложак вузкі.

Ты, любоў, былое — усе вы тут.
Але я ня тут,
Я ўжо далёка.

## З цыкла расказаў, аб'яднаных пад назвай "DIRTY REALISM" ("Брудны рэалізм")

### №4. Прастытутка

Зрэшты ён запытаў яе, колькі ёй трэба за тое, каб пераспаць разам. І дадаў неяк цнатліва: "Ты прастытутка?".



— Не, — адказала яна, — проста мне неабходны грошы, а мяне нікуды не бяруць.

— Я ніколі не меў справы з прастытуткамі, — працягваў ён усхвалявана, — і, не ведаю чаму, мне хацелася, каб ты была адной з іх, сапраўднай.

Бачачы яе нецярплівасць і больш таго, інстынктыўна адчуваючы ейную незадаволенасць марнатраўнай балбатнёй, з-за якой яна магла страціць сапраўднага кліента, ён запэўніў, што аплаціць ноч кахання ў ягонай кватэры.

На самай справе ён не атрымаў ночы кахання, бо перад гэтым крыху перабраў. Затое ён навярстаў страчанае на працягу мноства пазнейшых сустрэч з першай у яго жыцці жанчынай. Іх амаль крымінальная сувязь працягвалася шэсць месяцаў і адзін дзень.

Праз тры гады пасля расстання яны выпадкова сустрэліся каля дома, у якім калісьці знаходзілася іх любоўнае гняздзечка (цяпер у гэтым будынку размешчана мастацкая майстэрня). Ён запытаў, як справы. Яна адказала, што нармалёва і што цяпер яна працуе служачай у "Cortefiel", і што ў яе нікога няма. Ён таксама не быў з кім-небудзь звязаны і таму запрасіў яе на кубачак кавы з малаком (з двума кавалачкамі цукру, як яна любіла). Там жа, у бары-рэстаране, ён зрабіў ёй прапанову.

З таго часу яго, працуючага фотакапіравальшчыкам, можна ўбачыць з дзяўчынай, на выгляд гадоў трынаццаці, якая працуе недалёка ад мастацкіх майстэрань.

## З кніжкі "Паэмы для спеваў у вадзе"

III

У тваім ванным пакоі не было столі
і ты купалася пад дажджамі,
цела тваё абсушваў брыз,
і ты чакала месяца, каб заспяваць.



IV

Увага, у ванне пачынаецца шторм!
Мыльная пена пакідае тваю спіну
і, калі цёмны трохкутны якар
пакрысе ўздымаецца
над воднай паверхняю,
я рушу на святло тваіх вачэй-маякоў.

V

Не ведаю, скуль прыходзілі тыя караблі,
якія пад залевамі штучнай вады
шукалі дыхтоўнага прыстанку
паміж караламі тваіх караляў.
Не ведаю, колькі маракоў сканала
на тваіх маціцовых шчочках,
разбіўшыся аб дамбы
твайго да мяне кахання.

# Мелодыя фарбаў



Сустрэча з сапраўдным мастацтвам — заўсёды свята душы. Нават калі ты не вельмі разбіраешся ў тонкасцях кампазіцыі, каларыту, рытму і не здолееш зразумець, чаму хвалюе цябе той ці іншы твор. Усё роўна ўсемагутны час,і недарэчнасці нашага жыцця адступаюць перад высокім і вечным. Сапраўдны жывапіс дае штуршок да роздуму, нараджае ў гледача тыя ці іншыя асацыяцыі.

Усё гэта ў поўнай ступені можна аднесці да творчасці беларускага мастака Мікалая Селешчука.

Пачынаў ён як графік. І нават атрымаў некалькі ўзнагарод на міжнародных выставах за ілюстрацыі да дзіцячых кніг. Прыход да жывапісу не быў ні нечаканым, ні запланаваным. Шлях у мастацтве, сам момант творчасці — вечная тайна не толькі для звычайнага гледача, але часам і для самога мастака. Трансфармацыя асобы жывапісца, яго творчых прыхільнасцей адбылася сама сабой.

На другі план адышлі тэмы часовыя. З твораў зніклі натуралізм, прамалінейная публіцыстычнасць. За абстрактнай формай засталіся канкрэтнасць думкі, пачуцця, асацыяцый з нагоды нашага жыцця і прызначэння. Можа таму так цяжка сфармуляваць асноўную тэму творчасці мастака. Кожны бачыць у яго творах тое, што блізка і сугучна яго стану ў дадзены момант.

Звычайна мастацтвазнаўцы пішуць пра цеснае суседства гармоніі і дысгармоніі ў палотнах Селешчука, аб яго імкненні злучыць незлучымае. І ўсё ж гэта хутчэй пошукі формы, а не зместу. У сваіх карцінах мастак імкнецца ўбачыць і паказаць нашу рэчаіснасць так, як ніхто і ніколі да яго не бачыў яе. І калі глядач здолеў улавіць не толькі сюжэт, але стан і настрой аўтара, то сваю задачу жывапісец лічыць выкананай.

Творы Мікалая Селешчука цяжка апісаць. Іх трэба бачыць, адчуваць, слухаць іх музыку, гарэць у цёплых і замярзаць у халодных танах чароўных палотнаў. Усё гэта — Селяшчук сёння, той, чые карціны з поспехам экспануюцца і купляюцца за мяжой. І якія мы, на жаль, можам бачыць не вельмі часта.

**НА ЗДЫМКАХ:**
- **М.Селяшчук у сваёй майстэрні.**
- **Работа Селешчука "Сон" (1991).**



**Уладзімір ШУБА.**
**Фота аўтара.**

*Светапогляд*

# ХТО ЁСЦЬ МЫ?

*Віцебшчына заўсёды была багатая на таленавітых мастакоў. З Малевічам і Шагалам і сёння суадносяць свае творчыя пошукі іх даравітыя землякі, з творамі якіх жыхары горада і вобласці знаёмяцца на выставах.*

*У Віцебску прайшла персанальная выстава маладых мастакоў, выкладчыкаў тэхналагічнага інстытута Андрэя Вярэніча, Наталлі Лісоўскай, Святланы Урублеўскай.*

У кожнага з іх — свой твар, свой почырк, свае адносіны да свету. Але ўсе яны дораць нам хвалюючыя хвіліны прычашчэння да сапраўднага мастацтва...

...У горадзе ідзе дождж. Рознакаляровыя парасоны хаваюць твары прахожых, але іх змрочны настрой і напружаны стан усё роўна адчуваюцца. Вертыкальныя лініі дамоў загараюцца жоўтымі агеньчыкамі вокнаў: такімі ўтульнымі сярод халоднага сіняга вечара. Дождж — адзін на ўсіх. Ён аб'ядноўвае і размяжоўвае, настройвае на філасофскі роздум і дае нам магчымасць бачыць свой твар з іншага боку: праз дажджлівае акно...

Менавіта такім — шматгранным, надзеленым дыханнем бачыцца дождж у габеленах маладой мастачкі Наталлі Лісоўскай. Яго матывы — як сімвал лёгкага смутку і сентыментальнасці — праходзяць праз творчасць мастачкі. "Летні дождж. Вясёлка", "Дрэвы плачуць", "Зімовыя травы", "Бабіна лета" — настрой адчуваецца нават па адных назвах работ. Яго ствараюць і каляры — блакітна-сінія, жоўта-чырвоныя, шэразялёныя — фарбы самой прыроды, розныя не толькі кожную пару года, але і некалькі разоў за дзень. Трэба толькі ўмець заўважыць гэтыя змены і занатаваць з дапамогай шэрсці і сінтэтыкі, сезалі і металічных ніцей. Дыяпазон выкарыстоўваемых мастачкай матэрыялаў вельмі шырокі і часам нечаканы — такі, як і само наша жыццё. І як у жыцці мы падсвядома імкнёмся да гармоніі, так і Наталля шляхам дэкаратыўнай, стылізаванай мовы імкнецца перадаць гэтыя парывы душы праз тэхнічныя прыёмы — стварыць вобраз і настрой...

Хто ёсць мы? Што мы значым у гэтым свеце? І да якой катэгорыі мы адносім так часта выкарыстоўваемыя паняцці сумлення, дабра, трывогі, меланхоліі, болі, пяшчоты? Філасофскай? Маральнай? Матэрыяльнай?

Выпадковага гледача творчасць Андрэя Вярэніча, напэўна, не зацікавіць. Работы і не разлічаны на павярхоўнае сузіранне — яны патрабуюць работы думкі, работы душы, работы сэрца. Жанр творчасці мастака таксама складана вызначыць: сюррэалізм, сімвалізм, экспрэсіянізм, авангардызм... Складаны пошук ісціны, сэнсу жыцця і падаецца праз складаную тэхніку — Вярэніч надае значэнне кожнаму штрыху, кожнай рысе карціны. Працуе нават з лупай.

Кожная работа Вярэніча нясе сваю пэўную эмацыянальную нагрузку. "Час жыць" — у гэтай карціне мастак спрабуе паказаць жыццё на ўзроўні сімвалаў, шляхам знакавай сістэмы. У "Смуткуючай маці" вобраз больш акрэслены, але змест таксама глыбокі, філасофскі. "Жрыца" дорыць настрой лёгкі, светлы, жыццярадасны, захапляе таямніцай свецкага існавання...

Наогул мастацкія творы цяжка апісваць — таксама як перадаваць у словах музыку, танец, непаўторную прыгажосць прыроды.

— ...Аднойчы я бачыў сон — злавесны ваенны аркестр. Яго музыка ў мяне асацыіравалася з бунчуком — турэцкім жэзлам, якім карыстаюцца зараз і нашы аркестры. Гэта музыка на мяжы сну і рэальнасці нарадзіла думку, што ўсё наша жыццё — як марш падуладнага жэзлу аркестра, цяжкая музыка якога паралізуе, нараджае страх, каштуе чалавечых жыццяў. Нарадзілася карціна "Апошні акорд імперыі".

Андрэя прыцягвае трагедыйны жанр, а звышзадача мастацтва, на яго думку,—стварэнне асяроддзя звышадчувальнага. Мастак дазваляе расшырыць далягляд, бачыць свет больш востра.

— Мастацтва — эмацыянальная змена навакольнага, — лічыць Вярэніч. — Нават шэдэўры ёсць не што іншае, як творы высокага рамесніцтва. Людзі прывыклі бачыць мастацтва на выстаўках, але мастацтвам можа быць і любы твор прыроды: воблака, возера, кветка... Гэта паняцце значна шырэйшае, чым мы лічым.

Тэмы сваіх работ Андрэй Вярэніч чэрпае з розных крыніц: асабістага светаадчування, палітызаванасці грамадства, мары аб вечнасці душы — з кожнай са шматлікіх граней жыцця.

"Жыццё ёсць тое, што мы аб ім думаем", — сказаў Дэйл Карнэгі.

У кожнага сваё бачанне жыцця. Святлана Урублеўская акумулірye яго ў радасных свежых фарбах летніх кветак, у подыху вясновага ветру, у мудрым спакоі восені. Акварэлі і габелены Святланы насычаны аптымізмам і жыццесцвярджальнасцю прыроды. Мастачка карыстаецца рознымі тэхнічнымі прыёмамі для ўвасаблення сваіх задум: калаж, аплікацыя, вышыўка. Каляры яе складаныя, але зразумелыя і блізкія таму, хто ў кветцы ці кляновым лісце можа ўбачыць цэлы сусвет...

З многімі яе работамі, таксама як і з творамі Андрэя Вярэніча і Наталлі Лісоўскай, знаёмы гледачы рэспубліканскіх выставаў і, вядома, віцябчане. Цяпер жа ім выпала магчымасць стварыць больш поўнае ўражанне ад творчасці таленавітых маладых віцебскіх мастакоў — на персанальнай выставе, якой яны далі такую лірычную назву: "У Віцебску ідзе дождж"...

**С.Гаўрусёва.**

# На задворках былой імперыі










Юрый Мартынаў працуе інспектарам па справах непаўналетніх Маскоўскага РАУС г.Мінска. Працуе першы год пасля заканчэння педінстытута імя Горкага. Участак у яго не з лёгкіх – у самым цэнтры горада. Увесь працоўны дзень складаецца з наведвання вучылішчаў, школ, "складаных" падлеткаў на даму. Камусьці пасадзейнічае трапіць у вячэрнюю школу, камусьці – на працу. Хаця з працай становіцца ўсё больш цяжка: на прадпрыемствах – скарачэнні, уладкаванне хлопца на працу часам ператвараецца ў складаную праблему. Вось і сноўдаюцца яны па горадзе, не ведаючы, куды дзець свае рукі. І калі не маюць магчымасці рабіць добрыя справы, робяць дрэнныя.

Работы ў інспектара Мартынава становіцца ўсё больш. Усё больш кіламетраў праходзіць ён, імкнучыся хоць неяк дапамагчы падлеткам. Такой стараннасцю нядрэнна б авалодаць і гарадскім уладам, якія мала што робяць для ўладкавання падлеткаў на працу, арганізацыі іх вольнага часу.

Фота С.Брушко.

*Крымінал-Гінэс*

*Крымінал-Гінэс*

## Самы вялікі "ўлоў" наркотыкаў

Паводле даследаванняў спецыялістаў, зробленых у кастрычніку 1983 г., у ЗША гадавы абарот наркабізнесу складае 80 мільярдаў долараў, у тым ліку ад продажу какаіну — 35 мільярдаў долараў, а ад продажу марыхуаны — 13,9 мільярда долараў.

## Падробка банкнот

Самая маштабная аперацыя па падробцы банкнот пад кодавай назвай "Бернгард" была праведзена нацыстамі ў 1940-1941 гг. з мэтай падрыву брытанскай эканомікі. Ёю кіраваў штурмбанфюрэр СС Альфрэд Науйокс з тэхнічнага аддзела германскай сакрэтнай службы ў Берліне. У абарот было пушчана 150 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў фальшывых банкнот 5-фунтавай вартасці.

## Выкраданні

Самы буйны прадмет, выкрадзены адным чалавекам. 5 чэрвеня 1966 г. ціхай ноччу, у час прыліву Н.Уільям Кенэдзі, узброіўшыся завостранай сякерай, адсек прычальныя канцы гандлёвага судна "Арыент трэйдэр" водазмяшчальнасцю 10639 тон, якое з'яўлялася ўласнасцю кампаніі "Стыл фэкторз лімітэд" у Антарыа і стаяла на прыколе ў бухце Вулф, Канада. Карабель лёг у дрэйф і, не парушаючы забароны на перамяшчэнне караблёў у межах порта ў час неафіцыйнай забастоўкі, падышоў да буксіра, які чакаў яго з выключанымі агнямі. Узятае на буксір судна ўзяло курс да іспанскіх берагоў.

## Завяшчанні

Самае кароткае ў свеце маючае сілу завяшчанне складаецца са слоў: "Усё жонцы". Яно складзена Карлам Тойшам з Лангена, Гесен, і датавана 19 студзеня 1967 г.

* * *

Самым доўгім з'яўляецца завяшчанне Фрэдэрыкі Эвеліны Сцілуэл Кук, зацверджанае ў Самерсет-Хаўс, Лондан, 2 лістапада 1952 г. Яно складаецца з 2 пераплеценых тамоў і налічвае 95940 слоў.

## Масавыя забойствы

Абвінавачанне ў масавым генацыдзе, якое ўрад адной з суверэнных дзяржаў калі-небудзь прад'яўляў іншаму ўраду, звязана са знішчэннем 26,3 мільёна кітайцаў у перыяд рэжыму Мао Цзэдуна ў Кітаі, з 1949 па 1965 г. Гэтае абвінавачанне прагучала ў афіцыйнай заяве ТАСС 7 красавіка 1969 г. У гэтай заяве сцвярджалася, што масавыя забойствы ўчыняліся на працягу 4 асноўных перыядаў: 2,8 мільёна чалавек у 1949—1952 гг., 3,5 мільёна ў 1951—1957 гг., 6,7 мільёна ў 1958—1960 гг. і 13,3 мільёна чалавек з 1961 па май 1965 г. У "Справаздачы Уокера", апублікаванай Камітэтам па юрыдычных пытаннях амерыканскага сената ў ліпені 1971 г., прыводзяцца звесткі, згодна з якімі, пачынаючы з 1949 г., у Кітаі загінула ад 32,25 да 61,7 мільёна чалавек. Жан-Пьер Дзюжардэн у сваім артыкуле, апублікаваным у часопісе "Фігара" 19—25 лістапада 1978 г., ацаніў колькасць чалавечых ахвяр у Кітаі ў 63,7 мільёна чалавек.

У бюро дзяжурыў
П.Сіманаў.

# ЗАБЫТАЯ СЛАВА

## Кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі

Лёс Беларусі вызначаецца сваёй веліччу і трагізмам. Стагоддзі амаль няспынных войнаў, неабходнасць пастаянна адваёўваць у прыроды яе даброты, не выпускаючы з рук мяча, сфарміравала ў беларуса адметны характар, які выклікае захапленне і здзіўленне адначасова. Суседзі адзначаюць, што беларусы — "народ мяккасардэчны, гасцінны, працавіты, кемлівы, набожны, вясёлы, цярплівы, пяпомслівы, палка прывязаны да ўсяго, што звязана з гаспадараннем". Народ наш вызначаецца патэнцыяльнай здатнасцю да культуры і далікатнасцю, ахайнасцю і тактоўнасцю. Дэмакратычныя традыцыі беларускай дзяржаўнасці выпрацавалі ў беларускага люду рэлігійную талерантнасць і павагу да іншых поглядаў, і разам з тым — імкненне захаваць сваю асабістую незалежнасць. Прага асабістай аўтаномнасці і самастойнага гаспадарання спрадвеку пераважалі ў беларуса над калектывісцкімі ідэямі, што не выключала ўзаемадапамогі ў выпадку патрэбы. Спробы пранікнуць у свой унутраны свет беларус дапускае вельмі рэдка. Як імунітэт на настаянныя намаганні "дабрадзеяў" з усходу і захаду падпарадкаваць сабе беларуса і навязаць яму свае прынцыпы і погляды, фарміравалася беларуская скрытнасць і недаверлівасць. Нягледзячы на сваю гасціннасць і мяккасць, беларус скептычна ставіцца да чужых людзей, а тым больш ідэй, затое за ідэі, якія ўспрымае як свае, змагаецца з выключнай мэтанакіраванасцю і ўпартасцю.

Замкнёны і часам схільны да адзіноты і роздуму, беларус — натура надзвычай паэтычная. Багацце фантазіі і некаторая містычнасць далі магчымасць беларускаму люду стварыць выключны па багаццю фальклор і выпрацаваць мову, якую А.Міцкевіч назваў самай дасканалай і найбольш захаванай з усіх славянскіх моў.

Любоў беларуса да сваёй Радзімы, якую ён можа пакінуць толькі пад уплывам крайняй неабходнасці, уражвала іншаземцаў, асабліва рускіх, якія адзначалі, што беларусу "глыбока праціўна думка хаця б часова развітацца з роднымі мясцінамі". Менавіта гэтая любоў і павага да сваёй зямлі, а таксама выхаваная стагоддзямі павага да правоў суседа прывяла да адсутнасці ў беларускага народа агрэсіўнасці і духу каланізатарства. Так, людзі нашай зямлі талерантныя і добразычлівыя. Але галоўная трагедыя нашае зямлі, што лёс даў нам нецалерантных і нядобразычлівых суседзяў. Нашая культура, якая стагоддзямі жывіла тады яшчэ далёка не дасканалыя культуры суседзяў, нашая зямля, ператвораная з балота і лесу працай і розумам нашых продкаў у квітнеючы сад, сталі смакуслівым кавалкам для шматлікіх старэйшых братоў, якія надалі сабе права спажываць тое, што не стварылі. І вось сталася тое, што сталася. Мы, чые продкі калісь былі адным з самых слаўных у Еўропе народаў, робімся калі не адміністрацыйнай, то духоўнай правінцыяй "единой и неделимой". Мы, чыя культура роўная іншым еўрапейскім культурам, мусім, аддаўшы яе (па частках) суседзям, якія з гэтых частак здолелі зрабіць нацыянальны гонар, падбіраць аб'едкі. Мы, еўрапейская краіна, перад якой адчынены ўвесь свет еўрапейскай цывілізацыі, успрымаем гэтую цывілізацыю на мове краіны, якая знаходзіцца пераважна ў Азіі.Дзіўны наш народ.

Дужы і сумны. Меў герояў — і ніхто іх не ведае... Усё жыццё любіў волю — і яго прымусілі стаць рабом... Стварыў багацце культуры — і сам яе не ведае... Аднак не ўсё яшчэ страчана. Ёсць пакуль шанц, можа быць апошні, усвядоміць сябе людзьмі, народам з Вялікай гісторыяй і культурай, аднавіць тое, што амаль страчана, каб паказаць, што "жывы яшчэ наш народ, і жыць ён хоча, і жыць ён можа, і жыць ён будзе!"

### I

Амаль паўтары тысячы гадоў назад на заселеныя балтамоўнымі плямёнамі абшары Беларусі пачалі прыходзіць славяне. Змешванне славянскага насельніцтва з балцкім у басейнах Верхняга Дняпра і Заходняй Дзвіны выдзеліла гэты рэгіён сярод іншых заселеных усходнімі славянамі тэрыторый. Тут у выніку славяна-балцкага сінтэзу ў VIII—X стагоддзях утварыліся прабеларускія этнічныя супольнасці крывічоў, палачан, дрыгавічоў і радзімічаў, у культуры і мове якіх спалучыліся як славянскія, так і балцкія элементы. На іх аснове пачалося фарміраванне беларускай народнасці. Продкамі беларусаў у аднолькавай ступені былі як славяне, так і балты. (Нашчадкамі балтаў з'яўляюцца сучасныя латышы і літоўцы, якіх раней называлі жмудзінамі).

Адным з самых магутных племянных аб'яднанняў Усходняй Еўропы быў крывіцкі саюз. Частка крывічоў, названая ў самым старажытным летапісе палачанамі, — гэта значыць, жыхарамі раннефеадальнай дзяржавы — Полацкай зямлі, адразу вызначылася сваёй знешнепалітычнай актыўнасцю. У 907 і 911 гадах яны разам з войскам, якое сабраў князь Алег, хадзілі паспяховымі паходамі на Візантыю і перамагалі рамеяў. Гістарычныя крыніцы сведчаць, што знаёмай нашым продкам была ваярская навука не толькі на сушы, але і на моры. Іх баявыя лодзіі-караблі добра адчувалі сябе як на рачных, так і на марскіх прасторах, падыходзілі пад непадступныя муры Канстанцінопаля.

У канцы X стагоддзя летапісы паведамляюць пра полацкага князя Рагвалода, які быў зусім самастойным і незалежным — "трымаў, валадарыў і княжыў Полацкую зямлю". У яго час Полацкая зямля-княства стала настолькі магутнай і вядомай дзяржаваю, што саюза з ёй шукалі іншыя валадары. Адзін з іх князь Уладзімір (спачатку наўгародскі, потым вялікі князь кіеўскі), абражаны адмовай у дынастычным шлюбе з полацкай князёўнай Рагнедай, здолеў захапіць у палон і забіць Рагвалода. Дачку Рагвалода, Рагнеду, ён прымусова ўзяў у жонкі. Беларуская патрыётка Рагнеда зрабіла няўдалы замах на жыццё Уладзіміра і затым апынулася з сынам Ізяславам у Полацкай зямлі. З тае пары, як адзначыў летапісец, "узнімаюць меч Рагвалодавы ўнукі супроць унукаў Яраслава Мудрага (сына Уладзіміра)" княжыўшага ў Кіеве.

Ізяслаў княжыў у Полацку да 1001 года. У 1003 годзе князем полацкім стаў яго сын Брачыслаў. Зноў пачалася барацьба паміж Полацкам і Кіевам, якая працягвалася з перапынкамі больш чым 100 гадоў. Полацкія князі ўпарта абаранялі сваё княства, імкнуліся павялічыць яго за кошт суседніх тэрыторый. У 1021 годзе адбылася ўзброеная сутычка Брачыслава з Ноўгарадам, які полацкаму князю часова ўдалося захапіць.

Звыш 50 гадоў узначальваў полацкія дружыны ваяўнічы князь Усяслаў Брачыславіч. Ваенныя поспехі Усяслава, яго ўменне непрыкметна апынуцца там, дзе яго зусім не чакалі, сучаснікі лічылі чараўніцтвам. Нават на ворагаў рабіла моцнае ўражанне ўменне полацкага князя знайсці выхад з самага цяжкага становішча, асабліва ў час бою. Рашучасць і энергія, з якой ён абараняў незалежнасць Полацкай зямлі, былі выключнымі. У 1065 годзе Усяслаў асаджаў Пскоў, праз год захапіў часова Ноўгарад. У 1067 годзе адбылася бітва паміж "русічамі" і палачанамі. Берагі Нямігі былі "пасеяны касцьмі рускіх сыноў", але Усяславу давялося адступіць. У 1068 годзе Усяслаў Полацкі паўстаўшымі кіяўлянамі быў выбраны на велікакняскі трон у Кіеве, але хутка вярнуўся ў родны Полацк і працягваў барацьбу, клапоцячыся аб яго незалежнасці. Адносіны кіеўскіх князёў з Полацкам працягвалі заставацца ў першай трэці XII стагоддзя вельмі вострымі. У гэты час Кіеўская Русь канчаткова распалася, а Полацк доўгі час заставаўся самастойнай дзяржавай.

### II

Доўгі час насельніцтву Полацкай дзяржавы і суседніх зямель Прыбалтыкі даводзілася весці ўпартую барацьбу са знешнімі ворагамі, іх спробамі пазбавіць крывічоў-палачан самастойнасці, захапіць і падначаліць сваёй уладзе. На пачатку XIII стагоддзя разам з лівамі, латгаламі, эстамі — продкамі латышоў і эстонцаў палачане змагаліся з нямецкімі рыцарамі, якія ўварваліся ва Усходнюю Прыбалтыку. Заваёўнікам дапамагала каталіцкая царква. Сумеснымі намаганнямі быў створаны царкоўна-рыцарскі ордэн Мечаносцаў.

Нямецкія рыцары разбілі атрадыліваў, захапілі зручную Земгальскую гавань. На яе месцы ў 1201 годзе была пабудавана крэпасць Рыга. Гэты горад стаў цэнтрам нямецкага гандлю і дзейнасці манахаў-католікаў ва ўсёй Усходняй Прыбалтыцы. Будуючы невялікія мураваныя крэпасці і апіраючыся на іх, рыцары-крыжакі прасоўваліся ўверх па Заходняй Дзвіне ды пагражалі Полацку.

Лівы і латгалы з даўніх часоў плацілі даніну полацкім князям і пастаўлялі ім дапаможныя войскі. Задоўга да з'яўлення тут немцаў у ніжнім цячэнні Дзвіны (па-латышску Даўгавы) знаходзіліся гарады-крэпасці Кукенойс (цяпер Кокнэсе) і Герцыке (Ерсіка), якімі кіравалі васалы полацкага князя. З'яўленне нямецкіх крыжакоў ва Усходняй Прыбалтыцы пагражала Полацку стратай падуладных яму зямель.

Атрады з Полацка і іншых гарадоў дапамагалі насельніцтву Латвіі і Эстоніі адбіваць напады рыцараў. Да прыкладу, дружыны полацкага князя Уладзіміра аблажылі дзве нямецкія крэпасці летам 1203 г. У 1206 годзе палачане зноў прыйшлі на дапамогу лівам.

Рыцары наблізіліся да горада Кукенойса. Тут княжыў Вячка (Вячаслаў), які паходзіў з дынастыі полацкіх князёў і падпарадкоўваўся полацкаму князю Уладзіміру. З невялікай дружынай ён доўга і мужна адбіваўся ад захопнікаў, але не атрымаў своечасова дапамогі ад полацкага князя. У 1208 годзе Вячка мусіў спаліць Кукенойскі замак і з дружынай у 200 чалавек перайшоў на ўсходнеславянскія землі. Пазней ён узначальваў ваенныя сілы ў крэпасці на тэрыторыі эстаў у горадзе Юр'еве (цяпер Тарту) і загінуў у жорсткім баі з крыжакамі (1224 г.). Вячка быў сапраўдным героем барацьбы з нямецкімі рыцарамі.

У 1209 годзе нямецкія рыцары абрабавалі і спалілі другі старажытны фарпост Полацкага княства ў нізоўях Дзвіны — горад Герцыке. Калі крыжаносцы ўварваліся на землі эстаў, то апошнія звярнуліся па дапамогу да полацкага князя Уладзіміра. У 1216 годзе палачане разам з эстамі і літоўцамі рыхтавалі вялікі паход супраць мечаносцаў. Аднак у дзень выступлення з Полацка Уладзімір нечакана памёр (відаць, быў атручаны падасланымі людзьмі) і — паход сарваўся. Каб супрацьстаяць узрастаючай небяспецы, Полацк і Віцебск мусілі ўмацоўваць палітычныя сувязі з Ноўгарадам.

У 1240 годзе князь Аляксандр разграміў на Няве войска шведскіх рыцараў. Здабываць перамогу яму дапамагалі і палачане, якія змагаліся на баку Аляксандра Неўскага. Апавядаючы пра бітву ў адным з летапісных твораў, сучаснік адзначыў подзвігі шасці найбольш адважных вояў. Сярод гэтых герояў быў названы і беларус Якаў з горада Полацка. Узброены толькі мячом, праявіўшы выключную мужнасць, ён напаў на цэлы атрад (на старажытнай мове "полк") шведаў і адзін вытрымаў бой супраць рыцараў.

### III

У XIII стагоддзі пад пагрозай крыжацкай агрэсіі з захаду і мангола-татарскай з усходу пачаўся працэс аб'яднання асобных княстваў на абшарах Беларусі. Цэнтрам кансалідацыі стала летапісная Літва, размешчаная паміж асноўнымі этнічна-беларускімі землямі — Полацкай, Турава-Пінскай, Наваградскай. Калі ў 40-х гадах XIII стагоддзя адзін з літоўскіх князькоў Міндоўг з прычыны ўнутраных разладаў перабег у Наваградак і прыняў там хрысціянства, феадалы гэтага беларускага горада абралі яго сваім служылым князем. З дапамогай наваградцаў Міндоўг падпарадкаваў сабе Літву, затым ягоны сын Войшалак падначаліў суседнія балцкія землі Дзяволтву і Нальшчаны, а яшчэ пазней уладу Наваградка добраахвотна прызналі Полацк і Пінск. Гэтае дзяржаўнае ўтварэнне — аб'яднанне Літвы, Нальшчанаў, Дзяволтвы, Піншчыны ды Полаччыны вакол Наваградка стала першым этапам збірання Вялікага Княства Літоўскага, ядром новага гаспадарства з поліэтнічным насельніцтвам.

Пад канец XIII стагоддзя пры князі Віцені ў склад Вялікага Княства Літоўскага ўвайшла Берасцейская зямля, а пазней — увесь поўдзень Беларусі. Пры князі Гедыміне да княства далучылася большая частка этнічна беларускай тэрыторыі. Аб'яднанне адбывалася на аснове ўзаемадамоўленасці, якая гарантавала захаванне асаблівасцей мясцовага самакіравання, гаспадарчага і сацыяльнага жыцця. У 1323 годзе вялікі князь Гедымін перанёс сталіцу дзяржавы ў Вільню. Пры ягоным наступніку Альгердзе ў склад Вялікага Княства Літоўскага ўвайшло левабярэжжа Дняпра ды нізоўе Прыпяці, а пры Вітаўце — Смаленшчына. Так завяршылася ўключэнне этнічна беларускіх зямель у магутнае гаспадарства Еўропы, у якім колькасна дамінавала беларускае насельніцтва, дзяржаўнай мовай была старабеларуская, а ў культурным жыцці дамінаваў беларускі элемент. Тагачасныя беларусы зваліся "літвой" ці "ліцвінамі".

Аднак дзяржава будавалася ў далёка не мірных умовах. З 1203 па 1413 год насельніцтва Беларусі вытрывала безліч ваенных паходаў крыжакоў, зрабіўшы свой важкі ўклад у справу агульнаеўрапейскай барацьбы народаў Еўропы супроць крыжацкай агрэсіі. Яна ўсякі раз прыходзіла праз землі Падзвіння і Панямоння.

З пачатку XII ст.Полацк і Віцебск пачалі адыгрываць ролю багатырскіх застаў на шляху крыжацкай агрэсіі ў Падзвінні, наглуха закрыўшы крыжакам ход па Дзвіне ў глыб беларускіх зямель, на Смаленшчыну і Масковію.

(Працяг будзе)





## Умовы завочнага клуба знаёмстваў

Разам з пісьмом у рэдакцыю неабходна даслаць квітанцыю аб аплаце: за кожны адрас зацікавіўшага вас абанента або ліст да яго – два рублі. Калі вы хочаце ўбачыць надрукаваным у "Перапісцы" толькі свой адрас – 5 рублёў. За пісьмо, змешчанае ў рубрыцы знаёмстваў, – 20 рублёў.

Грошы пералічваюцца на разліковы рахунак "Чырвонай змены" № 345480 (код 811) у Беларускім прамыслова-інавацыйным банку г. Мінска, за межамі рэспублікі – № 811161700 у Гарупраўленні Дзяржбанка г. Мінска МФО 400417, абавязкова з паметкай "Перапіска" (гэта можна зрабіць у любым паштовым аддзяленні або ў ашчадным банку).

Рэдакцыя прадастаўляе льготы ваеннаслужачым. Яны могуць уносіць або не ўносіць плату па ўласнаму жаданню. Але друкуюцца ў першую чаргу лісты, да якіх прыкладзена квітанцыя.

Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць тэксты пісьмаў пры падрыхтоўцы да друку. Пісьмы без зваротнага адраса друкавацца не будуць.

● *Дзякуючы "Перапісцы" я знайшоў сваю адзіную, каханую. Але шчасце абмінула мяне. Магчыма, здарылася непаразуменне... Апублікуйце, калі ласка, мой ліст. Алег.*

ЖЭНЕЧКА, ДАРУЙ І ЗРАЗУМЕЙ

Як ні хутка бяжыць час, як ні цяжка мне, немагчыма выкрасліць з памяці цябе, мая мілая і добрая, самая прыгожая і каханая. Мой лёс, Жэнечка, зразумей, што жыццё без цябе страчвае ўсялякі сэнс. Мой лёс наканаваў мне шмат пакут, але самая цяжкая, самая горкая з іх, што няма цябе побач. Я не магу без цеплыні тваіх рук, без дабрыні тваіх вачэй. Заплюшчу вочы і бачу цябе, тваю ўсмешку, твой твар... Я гіну без цябе. Зразумей, што ніколі і ніхто не зможа кахаць цябе гэтак, як я. Не ведаю, што рабіць са сваім пачуццём, не бачу выйсця. І... чакаю цябе, мой лёс, мая ўдача. Колькі б ні мінула часу, ты заўсёды ў маім сэрцы. Даруй і зразумей.

222647, Мінская вобл., Клецкі р-н, п/а Завостравічы. Валадзько Алег.

## SOS!

● "Мне 24 гады. Пяць з іх пакутую на вельмі цяжкую хваробу — рассеяны энцэфаламіэліт. Нашы ўрачы вылечыць гэтую хваробу не могуць. Можа, нехта сутыкаўся, лячыў гэтае захворванне і дапаможа мне?

З павагай і надзеяй Галіна".

АБ. 591.

## Шукаю аднадумцаў

● "Мне 18 год. Студэнтка. Мая будучая прафесія — эканаміст. З малых год збіраю паштоўкі (іх у мяне ўжо вельмі шмат). Хацела б знайсці аднадумцаў.

670020, г.Улан-Удэ, Чыгуначны р-н, вул. Пушкіна, д.8. БСГІ, інтэрнат 1, пакой 160. Банцевай Сэсэнне".

## Давайце пазнаёмімся

● "Мне 27 год. Адукацыя сярэдняя спецыяльная.

Хацела б пазнаёміцца з добрасумленным, спакойным, шчырым, без шкодных звычак мужчынам 28—33 год, якому надакучыла адзінота і які б быў добрым бацькам майму маламу дзіцяці.

Люблю хатнюю ўтульнасць, парадак. Лічу галоўным у сям'і ўзаемаразуменне.

П'яніц, з месцаў пазбаўлення волі і дзеля цікавасці прашу не пісаць.

Жыву ў сельскай мясцовасці, у Магілёўскай вобласці, але пісаць прашу мне па адрасу:

220038, г.Мінск, вул. Батанічная, д. 21, пакой 410. Макарэвіч В.В. (для Святланы)".

● "З Браншчыны мяне перасялілі на беларускую зямлю. Мала аднаго гора — Чарнобыля, дык напаткала мяне яшчэ адно: трагічна загінулі муж з сынам. І ў 42 гады засталася я адна. Удава.

Прынялі мяне на Беларусі добра. Патрохі пачала прывыкаць, палюбіла беларускую мову. Прафесія ў мяне бібліятэкар. У "Чырвонай змене" ўбачыла "Перапіску" і адразу захацелася напісаць.

Хацела б сустрэць прыстойнага, добрага, цвярозага аптыміста, з пачуццём гумару. Тамара Філатава.

231300, г.Ліда, вул. Перамогі, 17-63".

● "Па волі выпадку я асуджаны. У свае 32 так і не меў сям'і. Няма каму аддаць свае пачуцці: каханне, цяпло.

Дзе ты, непаўторная?

Пра сябе. На знешнасць не крыўджуся. Раблю ўсё сам.

231900, г.Ваўкавыск, УЖ- 15/11-122. Філацьеў Аляксандр".

246047, г.Гомель, вул. Склезнева, д. 19, кв. 58. Вараб'ёва Таццяна (18 год).

● "Хачу знайсці чалавека, якому можна раскрыць сваю душу, падарыць каханне, быць сябрам.

Няхай прырода табе не дала грудзі, фігуру і ногі Сабрыны, усё роўна напішы мне, раптам я твой мілы?

Мне 48 год, знешнасць і характар у норме. Жыву ў вёсцы.

223640, Мінская вобл., Слуцкі р-н, в.Гарадзішча, паштовая скрынка 31. Грак Павел".

● "Мне 23 гады. Разведзены. Характар спакойны.

Так здарылася, што знаходжуся ў месцах пазбаўлення волі, тэрмін у мяне невялікі, засталося зусім мала.

Вельмі б хацеў, каб мне напісала дзяўчына да 26 год, можна з дзіцем, якая не пабаіцца сюды мне напісаць. Не страчваю надзеі знайсці сваё шчасце.

220600, г.Мінск, вул. Апанскага, 36, паштовая скрынка 35-12. Сяліцкі Аляксандр".

● "Мне 26 год. Быў жанаты, зараз разведзены. Вельмі люблю дзяцей, утульнасць. Нарадзіўся пад сузор'ем Блізнят.

Хацеў бы пазнаёміцца з добрай і прывабнай дзяўчынай да 25 год, можна з дзіцем. Спадзяюся, што для дзіцяці я стану добрым бацькам. Веру, што хутка сустрэну сваё каханне. Сяргей М."

АБ. 432, Мінская вобл.

● "Дзяўчаты, якія апошні год вучацца ў адным з магілёўскіх тэхнікумаў, жадаюць пазнаёміцца з хлопцамі да 25 год, без шкодных звычак, добрымі, сціплымі.

Нам па 19 год. Лена К., Лена Н".

АБ. 434, г.Магілёў.

● "Я зрабіў неабдуманы ўчынак. Апынуўся ў месцах пазбаўлення волі. Але ўсё чалавечае і добрае да людзей я не страціў. Хачу быць каханым і кахаць. Па характару я спакойны, добры. Работы ніякай не баюся. Люблю прыроду, збіраць грыбы. Акрамя асноўнай работы, займаюся фотасправай, шмат чытаю, займаюся спортам.

Прашу пісаць мне дзяўчат да 22 год, хто не баіцца звязаць свой лёс з маім. Дзяцей я люблю, пакрыўджаныя яны не будуць.

231900, Гродзенская вобл., г.Ваўкавыск, УЖ 15/11-92.

Сныткоў Сяргей".

● "Мне 20 год. Стройная, сімпатычная, шэравокая дзяўчына з доўгімі светла-каштанавымі валасамі. Завочна вучуся ў інстытуце.

Хачу пазнаёміцца з хлопцам для стварэння сям'і. У сваім выбранніку жадаю бачыць захапленне кнігамі, выяўленчым мастацтвам, добрай музыкай, ураўнаважанасць характару, дзелавітасць, пяшчоту, вернасць. Гэтыя якасці для мяне вельмі важныя. Я зразумела, што людзі без аднолькавых інтарэсаў доўгі час цярпець адзін аднаго не стануць.

Тых, хто любіць выпіць не толькі на святы, а яшчэ і кожную нядзелю, а таксама тых, хто адбывае тэрмін зняволення, прашу не непакоіць. Пажадана, каб хлопец быў з Салігорска або Слуцка. Таццяна".

АБ. 435.

● "Ты мне сніўся, калі я вучылася ў школе.

Я пісала табе вершы на лекцыях у інстытуце.

Спадзявалася, што нашы маршруты скрыжуюцца, калі мяне клікалі горы...

І нідзе цябе не знайшла. А можа наогул няма цябе на Зямлі, і ліст я дасылаю ў пустэчу і застанецца мне толькі міраж у даляглядах і самападман у фантазіях? Але галоўнае, што я ведаю цябе ў твар — ты мне сніўся. Дык ці пазнаю цябе я? Адгукніся!

Анжэліка, 30 год.

220002, г. Мінск, абанентная скрынка 77".

● "Я чалавек, які пераступіў мяжу закона, і зараз адбываю пакаранне ў месцах пазбаўлення волі. Што зробіш — за памылкі неабходна адказваць.

За гады, праведзеныя ў месцах пазбаўлення волі, многае зразумеў. Толькі вось бяда. Хутка заканчваецца тэрмін зняволення, а на волі ў мяне нікога няма. А так хочацца, каб цябе чакаў чалавек, які ў цяжкую хвіліну зможа падтрымаць.

Спадзяюся з дапамогай "Перапіскі" пазнаёміцца з дзяўчынай 20—24 год, ростам пажадана не вышэй чым 170 см.

Мяне завуць Аляўцін. 21 год.

220600, г.Мінск, вул. Апанскага, 36. Паштовая скрынка 3511. Дымар Аляўцін".

● "Я вельмі адзінокая і хацела б з дапамогай вашай газеты знайсці спадарожніка жыцця.

У адзіноце праходзяць лепшыя гады, жыццё без сям'і страчвае сэнс. Колькі разоў задавала сабе пытанне: каму я патрэбна? І адказ спадзяюся знайсці праз вашу газету. Бо ёсць яшчэ адзінокія мужчыны, якія вераць у сям'ю.

Мне 21 год. Сімпатычная, бландзінка. Хацела б пазнаёміцца з мужчынам 20—26 год. Згодна на пераезд. Зараз працую медсястрой.

211930, Віцебская вобл., Міёрскі р-н, в.Дварышча, д. 56. Пальчэўская Ліля".

## Шукаю сяброў

● 210001, г.Віцебск, вул.К.Маркса, д.28, кв. 4. Каральковай Каці (17 год).

● 247372, Гомельская вобл., Буда-Кашалёўскі р-н, п/а Радзеева, в.Лапічы, вул. Зарэчная, д.1 Душкевіч Наталлі (15 год).

● 211312, г.Віцебск, п/а Вярхоўе, вул. Школьная, д. 13, кв. 61. Ефімчук Алене (13 год).

● 211515, Віцебская вобл., Сенненскі р-н, п/а Какоўчына, в. Зубава. Румо Зоі (16 год).

● "Я чалавек вясёлы, таварыскі, люблю слухаць сучасную музыку, гуляць у тэніс, словам, захапляюся ўсім, чым можа захапляцца дзяўчына маіх год.

222021, Мінская вобл.,Крупскі р-н, п/а Ігрушка, пас. Каменка, вул. Меліярацыйная, д. 7, кв. 4. Дзірко Таццяне (дзесяцікласніца)".

● 220136, г.Мінск, вул. Адзінцова, д.36, кв. 657. Марыне Н. (15 год).

● 223817, Мінская вобл., Любанскі р-н, п/а Калінаўка, в.Палічын. Мірановіч Святлане (15 год).

● 212015, г.Магілёў, вул. Ямніцкая, 81-67. Жук Наталлі (15 год).

*OMEGA*

## Дайджэст

У трагічныя жнівеньскія дні абаронцаў "Белага дома" забяспечылі не толькі аўтаматамі, гранатамі і бутэлькамі з запальнай сумессю, але і без меры частавалі каньяком, гарэлкай і вэнджанай каўбасой.

**"Сталіца" (Масква).**

З 91-й беларускай газеты, дзейнасць якіх вывучала Часовая камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 83 надрукавалі матэрыялы ГКЧП і ў яго падтрымку, пры гэтым выкарыстоўвалі прыёмы фальсіфікацыі.

**"Феміда" (Мінск).**

189 маладых салдат з больш чым пяцітысячнага папаўнення Маскоўскай вайсковай акругі адмовіліся прыняць прысягу па нацыянальных матывах. Сярод іх — 64 беларусы.

**"Красная звезда" (Масква).**

Гадавое ўтрыманне "суверэнных" армій дзяржаў Садружнасці абыдзецца ў 1992 годзе ў 1,3—1,8 раза даражэй, чым гадавое ўтрыманне агульных узброеных сіл.

**"Літаратурная Расія" (Масква).**

Папулярная амерыканская пісьменніца Маргарэт Мітчэл, аўтарка славутага рамана "Знесеныя ветрам", была алкагалічкай, мела трох мужоў. Апошні з іх пераканаў яе перад смерцю знішчыць увесь архіў, бо хацеў, каб міф пра Мітчэл застаўся без "чорных плям".

**"Літаратурная газета" (Масква).**

## Прагноз

*Небяспечныя дні ў другой палове лютага:*

15-га – з 21 да 23 гадзін;
19-га – з 12 да 13;
24-га – з 6 да 8;
29-га – з 5 да 8.

*Будзьце асабліва асцярожныя ў гэтыя дні!*

Дзяжурны рэдактар П. СІМАНАЎ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: Саюз моладзі Беларусі
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77. ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.

Індэкс 63906. Тыраж 19 050.



Зак. № 7.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12